PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (1991) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 10 ЛІПЕНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Самае ўрачыстае Купалле спраўляюць у Белавежы.*

## КРЫНАЧКА

У Белавежскай пушчы, у пяці кіламетрах ад Дубін і двух ад Гайнаўкі, знаходзіцца незвычайнае месца на зямлі.

**Крыначка** — памяншальна-ласкальнае слова ад назоўніка „крыніца". Існуе яна ад незапомных часоў. Паводле праваслаўнай літаратуры, пачаткі культу Крыначкі звязаны з увядзеннем на гэтых змелях праваслаўя. Можна, аднак, дапусціць існаванне культу „жывой вады" і ў язычаскія часы (што сустракаем напр. у тутэйшых казках). „Рускі веснік" ад 1876 г. падае цікавыя заўвагі В. В. Крастоўскага, які свае ўражанні ад Крыначкі змясціў у „Падарожных запісах. Ад Беластока да Белавежскай пушчы". Гэтае месца Крастоўскі называе **Медна**. Успамінае ён пра 1831 год. Тады вяліся тут навуковыя даследаванні і ў вадзе была знойдзена сера. Быў нават намер пабудаваць тут лячэбную паліклініку. Інвестыцыя мела каштаваць 500 рублёў. Аднак з-за невядомых прычын намер гэты не здзейсніўся. Той жа аўтар прыводзіць расказ айца Базылеўскага, які гаворыць, што ў 1848 г., у часы Венгерскай кампаніі, у гэтым наваколлі стаяў Ізмайлаўскі полк. Тады адзін капітан, у якога лекар сцвердзіў пачаткі сухотаў, па ўгаворах сялян спрактыкаваў лячэнне святой вадой з Крыначкі. На здзіў лекарам хворы выздаравеў. Тады якраз і паўстала задума пабудаваць тут царкву. І ў тым жа 1848 годзе пабудавалі два дубінскія прыхаджане. Пабудова каштавала ўсяго 150 рублёў, будаўнікі карысталіся дрэвам з пушчы. Аўтар „Падарожных запісаў..." дадае, што ідэя пабудовы царквы ў гэтым месцы сустракалася з непрыхільнасцю ксяндзоў, якім было „не по нутру", бо самі хацелі пабудаваць тут касцёл. Цяжкасці былі таксама з боку адміністрацыі, якая складалася з палякаў. Царква захавалася да сёння. Шмат разоў яе абакралі. Багаслужбы ў ёй адбываюцца толькі ў другі і трэці дзень Святой Тройцы.

### Успаміны і сучаснасць

21 чэрвеня 1994 года, трэці дзень Святой Тройцы. 20 год таму назад усе хаткі ў маёй вёсцы былі ўпрыгожаны плюшчам і галінкамі ліпы. Гэта быў абавязак усіх жэўжыкаў. Малышы вялі своеасаблівае спаборніцтва, бо кожны з іх хацеў убіраць бабуліны хаткі, а як вядома, бабулі не шкадавалі грошай на цукеркі.

Сёння хату ўпрыгожыў толькі солтыс Ваня. Старым не хочацца, а дзяцей гэта ўжо не цікавіць.

Калісь усе — старыя і малыя — ехалі ў славутую Крыначку. У школу ў гэты дзень мы не хадзілі. А калі пры царкве і сустракалі сваіх настаўнікаў, тыя быццам бы і не заўважалі вучняў-прагульшчыкаў. Запамятаўся мне таксама бясконцы шнурок фурманак. Не адзін гаспадар мог праславіцца сваім канём, бо мужыкі на сваіх падводах безупынна абганялі адзін аднаго. У памяці жыве яшчэ ўспамін пра галасістых дзядзькоў з-пад Ласінкі, якія спявалі ў зваротнай дарозе. У народзе рэлігійнае свята спалучалася са сваяцкімі сустрэчамі, акропленымі не адной чаркай. Усё гэта мела таемную сувязь з лясным урочышчам і магутнымі дубамі стыхійнай пушчы. У гэты дзень, як правіла, узрывалася дзікая навальніца з маланкамі і градам. Бацькі заўсёды памяталі пра плашчы і цёплую вопратку дзеткам.

Працаваць у гэты дзень нікому і ў галаву не прыходзіла. Зараз жа дух паломніцтва быццам згас. З маёй вёскі ў Крыначку паехала толькі адна сям'я. Апошнія сушылі сена. Мне пашчасцілася паехаць з людзьмі з Навін. Паломнікаў давялося мне пабачыць ужо за гайнаўскімі могілкамі. На адлегласці 2 кіламетраў тармазілі „малюхі", „фіаты", „жукі" і трактары. Побач цісནуліся пешыя і веласіпедысты. Быў клопат паставіць машыну на стаянку. Былі і традыцыйныя фурманкі, на якіх дзядзькі крычалі „ўвага!" і прадзіраліся пад тыя ж магутныя дубы побач цэркаўкі. Але іх як на лякарства ўжо засталося. Навальніцы таксама не было.

### Традыцыйны абавязак

прыкладнога паломніка — гэта споведзь на гэтым святым месцы. Трэба таксама падысці да міру, падаць запіску за здароўе родных, памаліцца за шчасце і волю нашай Бацькаўшчыны ды напіцца свянцонай вады з Крыначкі. У народзе маштаб такога свята мераецца колькасцю бацюшкоў. У гэтым годзе я налічыла аж 16 святароў і

☞ *Працяг на стар. 9*

## КАМУНІЗМ, АЛЕ БЕЗ КАМУНІСТАЎ

Неспадзяваным вынікам закончыўся першы тур выбараў прэзідэнта Беларусі. Аляксандр Лукашэнка — шэф парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй перамог больш вядомых палітыкаў не пакідаючы сумнення, што ў наступным туры галасавання менавіта ён стане прэзідэнтам. Лукашэнка з'яўляецца прадстаўніком камуністаў малодшага пакалення, якое перакананае ў тым, што развал Савецкага Саюза быў вынікам здрады старэйшых таварышаў, а гаспадарчы крах — вынікам карупцыі і дэмаралізацыі наменклатуры.

Ад некалькіх месяцаў Лукашэнка асацыюецца грамадзянам Беларусі са змагаром са злачыннасцю ў верхніх эшалонах улады. Збяднеламу і прыніжанаму беларусу рэчаіснасць уяўляецца так: дрэнна жывецца таму, што ўлада раскрадае ўсё, што народ выпрацуе. Тым, хто наймацней крычаў: „лаві злодзея!" быў, вядома, Лукашэнка — беларускі камісар Катані (з італьянскага тэлесерыяла „Спрут", які нядаўна паказвалі па беларускім тэлебачанні). Найбольшыя аднак заслугі для папулярызацыі Лукашэнкі зрабіла каманда прэм'ер-міністра Кебіча, якая, маючы поўны кантроль над сродкамі масавай інфармацыі, апрача ідыятычнай прапаганды свайго кандыдата, пачала прымітыўную кампанію па кампраметацыі ўсіх сур'ёзных канкурэнтаў. У апошніх днях перад выбарамі галоўная атака пайшла на Лукашэнку. Дайшло да таго, што прадставілі гэтага кандыдата на пост прэзідэнта Беларусі як звычайнага злодзея, які ўкраў нават цукеркі з багажу выпадковых людзей, з якімі спадарожнічаў. Было гэта так ідыятычнае, што мусіла выклікаць адваротны рэзультат, чым запланавалі прапагандысты Кебіча. Дарэчы, Лукашэнка, змагаючыся раней з карупцыяй Шушкевіча і даказаўшы былому старшыні Вярхоўнага Савета растрату дзяржаўнай маёмасці вартасцю ў 100 долараў, выконваў сваю місію паводле ўказанняў Кебіча. Пасля раптам сам адчуў сябе збавіцелем народа і вырваўся з-пад кантролю свайго дабрадзея.

Нягледзячы на высокую перамогу ў першым туры выбараў, выйгрыш Лукашэнкі ў другім будзе тады толькі магчымым, калі прысутнасць галасуючых перавысіць 50% ад агульнай колькасці ўключаных у спіскі выбаршчыкаў.

Так ці інакш, Беларусь пасля гэтых выбараў гэта ўжо не тая самая дзяржава. Пройгрыш Кебіча абазначае, што старая камуністычная наменклатура страціла маральнае права на кіраванне краінай. Народ, галасуючы на Лукашэнку, выказаўся за змены, але такія, якія рашуча вяртаюць Беларусь у савецкую эпоху.

У Беластоку, дзе грамадзяне Беларусі маглі таксама галасаваць, перамог Станіслаў Шушкевіч, які атрымаў 10 галасоў на 25 магчымых. Лукашэнка быў другі — 8 галасоў, далей Пазьняк — 4 і Кебіч — 3.

Цікава, што татальна выбары прайграў кандыдат, які ішоў пад шыльдай Камуністычнай партыі Беларусі — Васіль Новікаў. „Камунізм, але без камуністаў", — вырашылі грамадзяне Беларусі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Marzenie każdego rządu to móc traktować środki masowego przekazu jak fortepian i przyciskając odpowiednie klawisze wygrywać do woli.*

*(Rzeczpospolita, nr 137)*

* * *

*Jak dotąd ludzka twarz kapitalizmu zbyt często miała twarz cwaniaka.*

*(Trybuna, nr 139)*

* * *

*Uwaga posłów, senatorów i ministrów jest absorbowana przez manie seksualne duchowieństwa katolickiego.*

*(Gazeta Współczesna, nr 115)*

* * *

*Stany Zjednoczone godziły się z tym, że zagłada milionów jest nieuchronna, jeżeli jest w interesie narodowym USA — innymi słowy, jeżeli ma być utrzymana ich pozycja. W 1954 r. w Gwatemali oraz w 1956 r. w Indonezji ambasady amerykańskie „wskazywały palcem”, kto ma być zgładzony, i rejestrowały te zgony równie sprawnie, jak naziści. Na czym zatem polega różnica „moralna” pomiędzy zabijaniem a „wskazywaniem palcem” kto ma być zabity? Różnica istnieje tylko między polityką zagraniczną USA a ich polityką informacyjną. Sprawna informacja oraz cudownie posłuszne zachodnie media sprawiają, że bezkarne pozostają niezliczone zbrodnie i okrucieństwa popełnione w imię „demokracji”.*

*(Polityka, nr 25)*

* * *

*W Rosji wytworzyła się nowa, nie tyle socjalna, ile antropologiczna warstwa. Nowy antropologiczny typ zwyciężył w rosyjskiej rewolucji. Nastąpił dobór biologicznie silniejszych i oni wysunęli się do pierwszych szeregów życia. Zjawił się młody człowiek w skórzanej kurtce, gładko wygolony, o postawie wojskowej, bardzo energiczny, rozsądny i opanowany żądzą władzy i przepychający się na czoło pierwszych szeregów życia — w większości przypadków ordynarny i bezczelny. Mieni się on panem życia, budowniczym przyszłej Rosji. To przede wszystkim nowy typ antropologiczny, typ rosyjskiego burżuja. Takich twarzy przedtem w Rosji nie było. Zjawił się nowy człowiek typu nie rosyjskiego, ale internacjonalnego. Ci panowie przepchną się na pierwsze miejsca. I krew ich nie powstrzyma na drodze do zaspokojenia żądzy władzy. I najbardziej złowroga postać w Rosji to nie dawny komunista, skazany na zagładę, ale właśnie ten młody człowiek. Rosja po raz pierwszy staje się krajem burżuazyjnym, jakim nigdy nie była.*

*(Najwyższy Czas, nr 24)*

* * *

*W socjalizmie ustrój gospodarczy był fatalny, ale poziom oświaty zupełnie przyzwoity. W ostatnich latach sytuacja w Polsce uległa odwróceniu. Nastąpiła wyraźna poprawa systemu gospodarczego, ale system oświaty wyraźnie nie nadąża za potrzebami zmieniającej się gospodarki i społeczeństwa.*

*(Polityka, nr 24)*

**Сацыялістычная і заадно клерыкальная школа сапраўды з капіталізмам не мае зашмат супольнага. Але ніхто тут яшчэ не збіраўся будаваць капіталізм, таму і школы ёсць такія, якіх патрабуюць кіраўнікі дзяржавы.**

* * *

*Sześć osób zabitych w wyniku strzelaniny w motelu „Watuliszki”, trzy ofiary śmiertelne bitwy w firmie „Prometeusz”, rozstrzelane z „kałasznikowa” małżeństwo biznesmenów w centrum Moskwy, lista pojedyńczych zabójstw na zamówienie — to wstępny bilans weekendu w Moskwie.*

*(Trybuna, nr 139)*

**Цікавую форму адпачынку засвоілі сабе жыхары Масквы.**

* * *

*„Jedność” to szeroka koalicja białostockich partii politycznych, organizacji i stowarzyszeń o prawicowym i antykomunistycznym rodowodzie. W swoim programie odwołują się one do wartości patriotycznych i chrześcijańskich.*

*(Gazeta Współczesna, nr 115)*

**Няма сумнення, што гэта суперпатрыятычная кааліцыя, але што яна мае супольнага з хрысціянствам?! Гэта ж зусім нешта іншае!**

* * *

*Jesteśmy narodem chrześcijańskim i chrześcijanie powinni nami rządzić, —* **заклікае аднак у наступным нумары** *Gazeta Współczesna (nr 116).*

* * *

*W telewizji na okrągło pokazuje się jakieś kościoły, chrzty, msze, pokropki, księży wszelkiej rangi, zakonnice i zakony, rozmaite „Ziarna”, „Słowa na niedzielę” itp., itd., bez opamiętania. No i papież kilkanaście razy dziennie. Religijna orgia i obłęd. Tego nie ma w żadnej telewizji na świecie, może z wyjątkiem Iranu. Wychodzi na to, że ksiądz lub siostra zakonna to nowy wzorzec osobowy nowej Polski. Z lekką domieszką starej polskiej szlachty. Równorzędna obok bloku kościelnego część programu — parady, defilady, odznaczenia, nadęte miny „elyt”. Do tego do znudzenia historyczne dyrdymały: historie jakichś kopców, opowieści o dawnych bohaterach, ich klęskach i nielicznych zwycięstwach. Trumny, zadumy, historyczne przemyślenia i pretensje do świata. Odkłamywanie historii tak głębokie, że dochodzi do nowych zakłamań.*

*(Polityka, nr 25)*

* * *

***Расія вялікая краіна, а расейцы вялікі народ. Але ў іх свой шлях. Расея можа стаць вялікай дзяржавай, а можа і гіганцкай крымінагеннай пустэчай, а можа стаць і калоніяй Захаду. А мы тады хто будзем — калоніяй калоніі? Нашаму народу ўладамі акрэсленая нейкая турэмная перспектыва: жыць спакойна, працаваць, нараджаць дзяцей. Але правільна было адзначана, што гэта перспектыва быдла, а не чалавека.***

***(Літаратура і мастацтва, н-р 23)***

* * *

***Благодаря Шушкевичу, сыну поляка-католика и польской еврейки в православной Беларуси были открыты более двухсот католических костёлов, а православных церквей лишь два десятка.***

***(Рэспубліка, н-р 115)***

* * *

***Мы прывыклі жыць у краіне крывых люстэркаў.***

***(Голас Радзімы, н-р 24)***

❐

# З мінулага тыдня

**Амаль 5,5 мільёна грамадзян Польшчы жыве ва ўбостве**, а 60% ад гэтага ліку — у галечы, галоўным чынам на вёсцы, — заяўляе падрыхтаваны Сусветным банкам рапарт аб сферы ўбоства ў нашай краіне. Аб'ём убоства ў краінах-удзельніцах — гэта цэнтральная праблема для СБ, — сказаў намеснік старшыні Банка **Вільфрыд Тальвіц**, адкрываючы семінар у Польскай акадэміі навук. Аналіз і ацэнка сферы ўбоства ў Польшчы, на думку міністра працы і сацыяльнай палітыкі **Лешка Мілера**, будзе тэмай пасяджэння ўрада. Рапарт Сусветнага банка — гэта дакумент, які патрабуе канфрантацыі з польскімі распрацоўкамі — дадаў Л. Мілер.

**Краёвая рада Уніі працы** вырашыла перайсці ў апазіцыю да ўрада **Вальдэмара Паўляка**. Непасрэднай прычынай такога рашэння, паводле лідэраў УП, была праграма віцэ-прэм'ера і міністра фінансаў **Гжэгажа Калодкі** „Стратэгія для Польшчы”, якая, на іх думку, прадказвае паварот направа ў палітыцы ўрада.

**Віцэ-прэм'еры Владзімеж Цімашэвіч і Аляксандр Лучак** прымалі ўдзел у пасяджэнні Сенацкай камісіі Філіяла Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку. Пасля пасяджэння А. Лучак выказаў спадзяванне, што праз два гады ў Беластоку паўстане самастойны ўніверсітэт. В. Цімашэвіч падкрэсліў, што надышоў час, калі трэба падтрымаць памкненні Філіяла стаць самастойным універсітэтам, бо ў іншым выпадку можа ўзнікнуць такая сітуацыя, што людзі, якія вераць у рэальнасць гэтай задумы, могуць знеахвоціцца і пакінуць вучэльню.

**Пачаліся ўступныя экзамены** на стацыянарныя аддзяленні беластоцкіх вышэйшых навучальных устаноў. За 1 200 месц на дванаццаці факультэтах змагаюцца 3 300 кандыдатаў.

**Свята беларускай культуры** ўжо чарговы раз адбылося ў Беластоку. У гарадскім амфітэатры перад паўтаратысячнай публікай выступілі беларускія калектывы Беласточчыны і ансамбль „Калі ласка” з Ліды. Напярэдадні госці з Беларусі далі канцэрт перад жыхарамі Рыбалаў.

**Сярэднееўрапейскі форум культуры** праходзіў у Сейнах і Віграх. Прынялі ў ім удзел навукоўцы, пісьменнікі, паэты і журналісты з Польшчы, Беларусі, Украіны і былой Югаславіі. Аб тым, як у новай рэчаіснасці павінны сябе весці інтэлектуалы і ці існуе шанц супрацьпаставіцца нацыяналістычным рухам гаварылі, між іншым, **Чэслаў Мілаш, Сакрат Яновіч, Ежы Пракапюк.**

**Падчас рамонту царквы Нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Пасынках** успыхнуў пажар, у выніку якога згарэла канструкцыя даху ўзведзенага ў 1891 годзе храма. Ад чаду пацярпелі шэсць чалавек, у тым ліку і настаяцель прыхода, якога трэба было пакласці ў бальніцу. Прычынай пажару была паяльная лямпа, якой рабочыя выпальвалі старую фарбу.

**Незвычайная газета „Аферал”** — нерэгістраванае выданне, якое бясплатна раздавалася жыхарам Беластока — абвінавачвае прэзідэнта горада і яго намесніка ў крадзяжу і карупцыі. Кіраўнікі горада палічылі гэта паклёпніцтвам і паведамілі пракуратуру.

**Больш за 50 сялян** з Беластоцкага, Ломжынскага і Сувальскага ваяводстваў выказалі гатоўнасць прыняць да сябе **палякаў з Казахстана.** Прадугледжваецца, што госці з Казахстана, мужчыны ў 25—40-гадовым узросце і з сельскагаспадарчай падрыхтоўкай, будуць знаёміцца ў польскіх сем'ях з умовамі гаспадарання, культурай і мовай. Запрашаючыя сяляне гарантуюць гасцям кватэру, харчаванне і грошы на дробныя выдаткі.

**Падпальшчык** царквы на Святой Гары Грабарцы **Ян Сабескі**, які не вярнуўся з пропуску ў турму, васемнаццаць дзён знаходзіўся на волі. За гэты час зрабіў ён серыю ўзломаў у магазіны і кватэры ў ваколіцах Мельніка і Нурца. Паліцыя затрымала злачынцу на чыгуначным вакзале ў Седльцах. Ян Сабескі ў мінулым годзе быў прыгавораны да 12 гадоў турмы за падпал царквы і іншыя злачынствы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- → Чаму знішчаюцца афрыканскія плямёны?
- → Трасцянка ў мінулым і сёння.
- → З гісторыі Мілейчыц.
- → „Басовішча” — музычнае шаленства ў Гарадку.

**Сябру**

**СЯРГЕЮ ХАРКЕВІЧУ**

**сардэчнае спачуванне**
**з прычыны напаткаўшага яго гора**

**— смерці Маці**

**выказваюць**
**Грамадскі камітэт пабудовы**
**Музея помнікаў беларускай**
**культуры**
**і Аддзел БГКТ у Гайнаўцы.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Вынікі першага тура

Ніводзін з кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь не набраў дастатковай колькасці галасоў для ягонага абрання прэзідэнтам — 50% ад ліку выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у выбарах. Аднак вызначыліся два кандыдаты, якія працягнуць барацьбу за пасаду прэзідэнта ў другім туры. Гэта — народны дэпутат РБ, былы старшыня парламенцкай часовай антыкарупцыйнай камісіі Аляксандр Лукашэнка і прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. Аляксандр Лукашэнка з вялікім адрывам апераджае астатніх пяць кандыдатаў. За яго прагаласавала 45,1%. Вячаслаў Кебіч набраў 17,4%. Лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк атрымаў 12,9%, былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч — 9,9%, старшыня Савета калгасаў Аляксандр Дубко — 6%, а старшыня Партыі камуністаў Беларусі Васіль Новікаў — 4,6%.

### Туга па Саюзе

У Менску адбылася канферэнцыя „Расея і Беларусь — шлях у будучае”. Яе ўдзельнікі, сярод якіх былі вядомыя савецкія палітыкі Рыжкоў, Лук'янаў і Шавялуха, абмеркавалі перспектывы развіцця Расеі і Беларусі, шляхі выхаду з эканамічнага крызісу і магчымасці супрацоўніцтва. Былы старшыня Савета Міністраў СССР Нікалай Рыжкоў адзначыў неабходнасць стварэння новага саюза, які аб'яднае самастойныя дзяржавы з наднацыянальнымі заканадаўчым і выканаўчым органамі. Што датычыцца СНД, то, на яго думку, яна не працуе, бо ў аснове стварэння Садружнасці не ляжалі глыбокапрадуманыя рашэнні.

### Духоўны цэнтр

У Салігорску ўстаноўлены крыж і асвечана месца, дзе будзе ўзведзены праваслаўны духоўны цэнтр. Плануецца пабудаваць сабор для 400 тысяч вернікаў, званіцу і царкву на 200 чалавек. Побач размесціцца нядзельная школа для ста хлопчыкаў і дзяўчынак, гасцініца, дом міласэрнасці на 25 чалавек, службовыя памяшканні і майстэрні. Будаўніцтва духоўнага цэнтра, якое будзе каштаваць горад не менш, як 10 млрд. руб., павінна быць завершана праз 2—3 гады.

### Ушанаванне славянскіх асветнікаў

Жыхары Бранскай, Чарнігаўскай і Гомельскай абласцей сабраліся па традыцыі на стыку граніц Расеі, Украіны і Беларусі. Тут, па блаславенню свяцейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II, Міжнародны фонд славянскага пісьменства і культуры паставіў брацкі паклонны крыж у памяць найвялікшых славянскіх асветнікаў роўнаапостальных святых братоў Кірылы і Мяфодзія, якія падарылі славянскім народам пісьменнасць. У гэтым месцы будзе ўзведзены храм Сашэсця Св. Духа.

### Журналісты вучацца

Маладыя журналісты з усёй рэспублікі сабраліся ў Менску. Тут пры ўдзеле Інстытута міжнародных сувязей Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Саюза журналістаў Беларусі праходзіў семінар для маладых прадстаўнікоў усіх сродкаў масавай інфармацыі. Яго мэта — бліжэй пазнаёміцца са структурай заходніх масмідыяў.

### Змены ў арміі

За апошнія два гады ў беларускіх узброеных сілах было звольнена каля 15 тысяч афіцэраў. У асноўным гэта людзі, якія маюць права на атрыманне пенсіі або тыя, хто не пажадаў прадаўжаць службу. Разам з тым у арміі прыкметна вырасла колькасць афіцэраў — ураджэнцаў рэспублікі. Калі спачатку фармавання ўзброеных сіл яны складалі каля 16% ад агульнай колькасці ваеннаслужачых, то сёння гэтая лічба павялічылася да 47%.

### Поспех беларускай спявачкі

Спявачка Іна Афанасьева ўпершыню будзе прадстаўляць Беларусь на адным з найбольш прэстыжных песенных фестываляў Еўропы „Браціслаўская ліра”. Відэакліп адной з яе песень паспяхова прайшоў папярэдні адбор і трапіў у фінальную частку конкурсу. Акрамя таго, у адным з фінальных канцэртаў прадугледжана сольная паўгадзінная праграма беларускай спявачкі.

### Маладзёжны фестываль

На граніцы трох рэспублік, ля манумента дружбы, прайшоў міжнародны маладзёжны фестываль пад дэвізам „Дружба славян-94”. Ён прысвечаны Дню моладзі і 50-годдзю вызвалення Беларсі ад гітлераўскіх захопнікаў. Яго ўдзельнікі — юнакі і дзяўчаты з Расеі, Беларусі і Украіны. На працягу трох дзён праходзілі конкурсы па выкананню славянскай песні, спартыўныя спаборніцтвы, вечары за славянскім сталом, сустрэчы з ветэранамі.

### Спецыяльны карт-блок

Міністэрства сувязі і інфарматыкі сумесна з калегамі з Расеі і Украіны выпусціла паштовы карт-блок у гонар 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. 3 ліпеня на менскім паштамце адбылося спецыяльнае пагашэнне на адмысловым канверце першага дня. Акрамя таго, у гонар гэтай даты выпушчаны мастацкі маркіраваны канверт з выявай Кургана Славы.

# АСНОЎНАЕ — ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМЫ

Размова з бурмістрам Кляшчэль **АЛЯКСАНДРАМ СЯЛІЦКІМ.**

*— Усю гаспадарку краіны ахапіў крызіс, а ў вас, у цэнтры мястэчка вядзецца вялікая будоўля. Чым растлумачыць інвестыцыйную актыўнасць гміны і адкуль у вас на гэта фінансавыя сродкі?*

— Сапраўды, будоўля ў цэнтры, на плошчы каля царквы — гэта гмінная школа са спартыўнай залай. Кошт самога будынка складзе суму ў 11 мільярдаў злотых. Да таго трэба дадаць яшчэ 5 мільярдаў коштаў залы. Разам з гэтым будуем ачышчальню сцёкаў за 7 млрд. зл. Найхутчэй справімся са спартыўнай залай (яна ўжо выканана ў 70%) і здамо яе ў карыстанне ў верасні г.г. Да пачатку навучальнага года 1994/1995 не паспеем з асноўным будынкам і з-за недахопу фінансаў будову будзем працягваць і ў наступным годзе. Будова школы фінансуецца галоўным чынам з гміннага бюджэту. Атрымалі мы таксама падтрымку з Куратарыі велічынёю ў 2,5 млрд. зл. Лічылі мы яшчэ, што дапаможа нам Міністэрства нацыянальнай адукацыі са сродкаў для нацыянальных меншасцей (у нас 70% насельніцтва — праваслаўныя), але не атрымалася. Работы пры ачышчальні сцёкаў выкананы ў 65% і на заканчэнне таксама не хапае грошай, а абедзве пабудовы трэба весці паралельна і здаць іх разам. На ачышчальню атрымалі мы 500 млн. зл. з Ваяводскага фонду аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі. Цяпер хочам узяць крэдыт у Нацыянальным фондзе аховы асяроддзя. Каб закончыць гэтую экалагічную інвестыцыю, трэба нам 3 млрд. зл. Афармленне усіх крэдытных дакументаў працягнецца з тры месяцы. Мяркуем, што школу і ачышчальню здамо ў карыстанне ў верасні наступнага года.

*— Названыя вамі будоўлі, думаю, не адзіныя інвестыцыі ў гміне?*

— Маеце рацыю. У маі пачалі мы пракладку водаправода ў Палічнай і Кураўшаве. У чэрвені палажылі асфальтавае палатно на дарозе з Кляшчэляў у Жукі, каля пасёлка ПГР. Водаправод абыдзецца нам у паўтара мільярда злотых, а за 700 метраў асфальта заплацілі мы 300 мільёнаў зл. Таннейшымі атрымоўваюцца дарогі-гравійкі. Цяпер будуем такую дарогу з Залешанаў у Тапаркі — 1200 м за 130 млн. зл., і з Коснай у Пагрaбы — 1,5 км за 110 млн. Грошы на дарожную справу атрымалі мы з Ваяводскага фонду рэкультывацыі. Канчаем цяпер пабудову купальнага басейна. Каштуе ён нас 110 млн. зл. і працы пры ім вядуцца ў рамках інтэрвенцыйных работ, што дало занятак і заробак нашым беспрацоўным. Ужо ў ліпені аматараў плавання запрашаем у Кляшчэлі.

*— А як складваецца супрацоўніцтва бурмістра з солтысамі навакольных вёсак?*

— Выдатна! У нашай гміне чатырнаццаць вёсак. Немагчыма было б дабіцца поспехаў без дапамогі солтысаў. Хачу назваць прозвішчы найбольш актыўных, наш авангард. Гэта, перш за ўсё, Сямён Міцэвіч з Дашоў, Мікалай Якубоўскі з Сухавольцаў, Рыгор Баразна з Сакоў. Не абазначае гэта, што іншыя солтысы не працуюць. Яны ўсе ўносяць сваю лепту ў пабудову нашай рэчаіснасці.

*— А што вам найбольш перашкаджае ў здзяйсненні планаў і намераў у горадзе і гміне?*

— Асноўная праблема — гэта недахоп фінансавых сродкаў на заканчэнне пачатых інвестыцый. Другая, не менш балючая праблема — беспрацоўе. Пасля банкруцтва ПГРа і ГСа, больш за дзве сотні людзей страцілі працу. Зараз у нашай гміне зарэгістравана амаль трыста беспрацоўных. У сувязі з тым, што маёмасць абанкруціўшыхся прадпрыемстваў асталася непадзеленай, былыя працаўнікі не маюць пастаяннай працы. Тое ж тычыцца і ПОМа. Зараз шукаем прадпрымальнікаў, якія купілі б абанкруціўшыяся фірмы і добраўпарадкавалі іх. Там ёсць добрая тэхнічная база і хутка можна наладзіць прадукцыю, толькі трэба ўмець яе выкарыстаць.

*— Якую справу ў найбліжэйшых планах гміны лічыце галоўнай?*

— Перш за ўсё інфраструктуру. Непадалёк Кляшчэляў знаходзіцца кантрольна-прапускны пагранічны пераход Полаўцы—Пяшчатка. Праз наш горад праязджаюць турысты ў Беларусь і з Беларусі. Намагаемся разбудаваць гасцінічную і гандлёва-паслуговую базу. Хочам таксама выкарыстаць натуральныя якасці нашай прыроды і таму намерваемся пабудаваць турыстычную базу ў Рэпчыцах за 50 млрд. злотых.

*— У некаторых гмінах пад пагрозай апынулася існаванне дзіцячых садкоў. Як вырашана справа прадшколля ў Кляшчэлях?*

— У гэтым годзе 8% ад 9,5-мільярднага гміннага бюджэта адвялі мы на забеспячэнне працы дзіцячага садка. У гэтым годзе прадшколле наведвала каля шасцідзесяці малышоў, якія займаліся ў чатырох аддзелах. Персанал дзетсадка налічвае 11 асоб (настаўнікаў і абслугі). Кошт утрымання аднаго дзіцяці складае ў сярэднім 1 млн. зл. у месяц. Нягледзячы на высокія кошты, прадшколле не спыняе сваёй працы, а гмінная датацыя дазваляе на нармальнае функцыянаванне гэтай асветнай установы. У сваёй штодзённай працы мы імкнемся задаволіць падставовыя патрэбы насельніцтва. І хаця грошы — вельмі важны фактар у любой дзейнасці, мы, аднак, не губляем з поля зроку чалавека. Асноўная наша задача — вырашыць праблемы жыхароў Кляшчэль і гміны.

*— Дзякую за размову! Пры нагодзе хачу дадаць, што прыемна пачуць такія словы з вуснаў самаўрадавага чыноўніка. Хацелася б, каб такіх людзей, як мой суразмоўца, як найбольш апынулася ў нававыбраных гмінных самаўрадах.*

Гутарыў
**УЛАДЗІМІР СІДАРУК**

# ПАНІ ВОЙТ МАНІЦЬ!

У матэрыяле „Незалежныя і непалітычныя”, змешчаным у артыкуле пад агульнай назвай „Выбарчая панарама” („Ніва” н-р 24 ад 12 чэрвеня г.г., стар. 3) войт гміны Белавежа Анна Байко на пытанне журналіста, ці ў папярэдніх выбарах яна балатавалася з беларускага спіска, адказала: „Не, я тады была незалежная”. Гэта няпраўда! У 1990 годзе, у час самаўрадавых выбараў Анна Байко была кандыдатам беларускага руху. У сваім хатнім архіве я знайшоў выбарчую лістоўку, якая тады распаўсюджвалася ў Белавежы і ў якой выразна напісана, што яна прадстаўляла БГКТ. Відаць, спадарыня Анна Байко за чатыры гады знаходжання на пасадзе войта Белавежы забылася, хто яна такая.

*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

# ПРАЎДУ КАЖА ШВЕДАЎ ВЕРШ...

Верш нашага вядомага паэта Віктара Шведа „Паміраюць нашы вёскі”, апублікаваны ў 25 нумары „Нівы” ў кароткай форме красамоўна расказвае пра драму нашых беластоцкіх вёсак. Гэта іх натуральная смерць. Калі прыйшоў да нас наш асаблівы капіталізм, гэты працэс рушыў яшчэ хутчэй! Разам са смерцю вёскі памруць і наш фальклор, абычаі, традыцыя... Людзі, вядома, застануцца людзьмі, але гэта будуць ужо іншыя людзі. Асімілююцца. З унукамі дзяды ўжо стараюцца размаўляць на польскай мове. На Захадзе не бачым такіх вёсак, як у нас. Там ёсць вялікія фермы, багацце, але пануе штучны шаблон, без нейкага рамантызму, гармоніі і глыбокай сувязі з прыродай. Гэта ёсць прадукцыя.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# МОЦНАЯ, АЛЕ САМА НЕ АБАРОНІЦЦА!

Усе згодны, думаю, з артыкулам А. Гаўрылюка „Прырода не абароніцца сама” („Ніва” н-р 24). Чалавек і яго вялікі розум з'яўляюцца галоўнымі ворагамі жывой прыроды, хаця могуць быць і яе выратавальнікамі. Прагрэс палягчае жыццё, дае працу мільёнам людзей, але і нішчыць наваколле чалавека. Хаця будуюцца ачышчальні, але яны не могуць даць гарантыі, што вада, паветра, лес зноў стануць поўнасцю чыстымі. Дарэчы, нашы ачышчальні бываюць „дапатопнымі”, а на сучаснасць наш дзяржаўны бюджэт не мае грошай (не толькі на ахову прыроды). І людзі не так у нас шануюць сваё натуральнае дабро, як, скажам, у Амерыцы ці Нямеччыне; культура ў нас не такая.

Наш лес выглядае, як найгоршы сметнік. Нішчаць яго і пажары. Як выглядае сёння наша славутая Белавежская пушча?! Бяскарна бушуюць браканьеры, зладзеі драўніны і прадпрыемствы выдзіраюць у пушчы найлепшае. Паліцыя цікавіцца, напрыклад у Дубічах, тымі, хто ходзяць у падазрона парванай адзежы ці трактар у іх не вельмі ў парадку, а не бачыць, што вытвараюць зладзеі і бандыты!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЯК ТРЫВОГА, ТО ДА БОГА!

У К-цы, што на Гайнаўшчыне здарылася бяда.

— Янэк, ты дзісь нэ выпіўшы? — папыталася ў суседа-кавалера цётка Насця. Муж яе вярнуўся з працы прапіты і за „рулём” пасадзіць яго не хацелі. Янэк паспачуваў ў бядзе і хуценька паехалі. Трэба было спяшацца, бо ўжо вечарэла.

У поўдзень цётка Насця зайшла да кароў. Аднак зглядзела, што няма 6-цімесячнага бычка. Спачатку думала, што, як заўсёды, сарваўся і пайшоў да чужых кароў. Абышла аколіцу, але ж дарма. Напалохалі яе тры зубры, якія нядаўна з'явіліся ў лесе і сеюць перапалох сярод гаспадароў.

Вярнуўшыся ў вёску згаварылася з Янкам. Вырашылі паехаць трактарам шукаць цяляці. Узялі таксама гаспадара — мужа цёткі Надзі. Той аднак, замест разглядацца за бычком, лаяў жонку і ўсю віну спіхаў на яе. Хутка аднак заснуў і яго пакінулі ў Тыневічах. Цётка з Янкам аб'ехалі яшчэ наваколле Кленік. Цяляці не было.

— На другі дэнь тожэ шукалі, — расказваў Янэк з К-кі.

Справа спачатку набрала ходу. Неўзабаве прыехала нараўская паліцыя. Пахадзілі, пасачылі, папыталіся і назад паехалі.

Мінуў тыдзень. Пра цяля і след прапаў.

— Його то ўжэ ў Лапухувцы з'елі, — смяяліся жахары К-кі. Цётка Насця аднак не трацiла надзеі.

Мясцовыя кабеты „настроілі” ёй падацца да варожкі. Так і зрабіла. Недалёка, на Курашоўскай калёніі жыве варожка. Паводле вяскоўцаў, умее яна згледзець нябачнае.

— То там у вас, блізко, шукаті трэба, — сказала шанаваная цётка.

Мінуў чарговы тыдзень.

А ж тут чалавек з Макаўкі едзе і навіну прыводзіць.

— Вы едзьце ў К-нь. Там у „того”, што бычкі годуе, кажут, одно чужое е.

Цётка Насця, яе муж і іхняя бабка маланкава пагналіся ў К-нь. Узніклі, аднак, праблемы. Гаспадар з К-ня пра тое і слухаць не хацеў. А калі раз'юшаныя жахары К-кі ўварваліся на падворак, той пагнаў іх з сякерай.

Не абышлося без паліцыі. Гэтым разам ахоўнікі парадку прыехалі з Чыжоў. Разам зайшлі ў хлявы і на пашу агрэсіўнага гаспадара з К-ня.

Жанчыны пазналі там свайго бычка.

— Ну як мніэ його нэ познаті, як я за ім, як за дітіатом ходіла, — галасіла цётка Насця.

— І бабка познаді, і Пеця жэш познаў, — паўтаралі маланкава сусед суседу з К-кі.

Аднак гаспадар з К-ня свцярджае, што гэта беспадстаўная „напасць” на яго дабро. Усіх цялят у яго 28 і ўсе маюць „радаводы” — дакументы, якія трэба паказаць пры продажы бычкоў. Справай займалася нараўская, чыжоўская і гайнаўская паліцыя. Пакуль што, ніхто нічога не ведае.

Усе аднак ведаюць, што жонка гаспадара-жывёлавода закупіла ў царкве малебен „од напасті”.

На колькі К-нь і К-ка ў адной парафіі, усе інфармацыі дэталёва рассакрэчаныя.

— Вона цылу молебень плакала (жонка жывёлавода), — паўтаралі тыя, якія спачувалі жанчыне ў бядзе.

Але жыхары К-кі не вераць у тыя слёзы. Чакаюць таксама рэваншу ад цёткі Насці. Паводле іх, жанчына з К-кі павінна падаць на тры царквы сям'ю з К-ня, якая „сее ў народзе абман”.

**К. С.**

# АДКУЛЬ НАЗВА ВЁСКІ ПУХЛЫ?

**Легенда і дакумент**

Узнікненне пасялення Пухлы, распалажанага на правым беразе ракі Нарвы, цесна звязана з легендай, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне. Паводле яе недзе пад канец XVI стагоддзя аб'явілася ў гэтай мясцовасці ікона Пакроў Прасвятой Багародзіцы. У тым месцы, дзе зараз знаходзіцца царква, расла вялікая ліпа, у засені якой, у шалашы, жыў чалавек хворы пухлінай. Ён шчыра маліўся. І аднойчы ўбачыў ён на верхавіне дрэва ікону Божай Маці, якая яго аздаравіла. Гэтае месца ад назвы хваробы, на мясцовай гаворцы *опухлі*, атрымала назву Пухлы.

Як сцвярджае люстрацыя Падляшскага ваяводства, праведзеная ў 1576 годзе, у Пухлах быў двор і маёнтак, а таксама невялічкая цэркаўка. Храм стаяў на месцы цудоўнага аб'яўлення іконы Пакроў Божай Маці. Цудоўную ікону змясцілі ў алтары. Яна праславілася ў аколіцы многімі цудадзеяннямі.

Пра першапачаткова невялікае пасяленне, а затым пра вёску і фальварак, захаваліся дакументальныя рукапісныя крыніцы, між іншым, ад 1580, 1676 і 1790 гадоў. Адна з крыніц — запіс ад 1561 года інфармуе, што тут жыў Тамаш Пухловіч, сын войта з *Тросгяніцы*. Назва *Пухлы* радавая, ад асабовай *Пухло*.

**ЯСЕНЬ**

# БЕЛАСТОЧЧЫНА ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ

Сёлетняя выбарчая кампанія ў самаврады ў параўнанні з падобнымі мінулагоднімі палітычнымі акцыямі была вельмі нуднай. Магчыма таму 70% выбаршчыкаў 19 чэрвеня забыліся пра „грамадзянскі абавязак". Каб не агітацыя ў касцёлах і лістоўкі ў паштовых скрынках з ламбразоўскімі тыпамі на першай старонцы, можна было б сказаць, што кампанія была незаўважальнай. Толькі ў цэнтры Беластока, а асабліва пры вуліцы Сураскай, стаяла, як у час ПРОНу, калекцыя партрэтаў нацыянал-салідарніцкай кааліцыі „Еднасць".

Беластоцкая прэса, якая — як здаецца — бярэ ўдзел у нейкім конкурсе нуды, хаця і была перапоўненая выбарчай праблематыкай, аднак знеахвочвала зместам сваіх публікацый не толькі да чытання але і да галасавання. „Кур'ер Падляшскі" заклікаў падтрымаць камітэт, які стварыла рэдакцыя, „Газета Вспулчэсна" — заўсёдны орган „вядучай сілы" — вяла выбарчую кампанію „Еднасці", „Кур'ер Паранны" больш-менш стараўся інфармаваць пра ўсіх кандыдатаў.

Звыш 30-ціпрацэнтная прысутнасць на выбарах на Беласточчыне дазваляе лічыць гэты рэгіён найбольш актыўным у краіне. У гмінах і мястэчках, дзе выступае змешанае па нацыянальным складзе грамадства, актыўнасць была яшчэ большай. Крынкі, Мілейчыцы, Мельнік, Сідра перасягнулі 50-ціпрацэнтную прысутнасць выбаршчыкаў на галасаванні. У Бельску і Гайнаўцы змаганне паміж „нашымі" і „нянашымі" ішло з поўнай свядомасцю „нашых", што пройгрыш абазначае працяг паклёпаў і абсурдных абвінавачанняў, перспектывы на беспрацоўе для тых, што яшчэ працуюць.

У Беластоку толькі каталіцкая курыя мабілізавала ўсіх „сваіх" у нацыянал-салідарніцкі блок „Еднасць", гарантуючы такім чынам перамогу над праваслаўнай, палітычным балотам*) і ўсялякімі фальклорнымі камітэтамі. Праваслаўная курыя традыцыйна ўжо была падзеленая — гэтым разам на „левых" і „праваслаўных". У абедзвюх групах дамінавалі праваслаўныя палякі, хаця адны і другія дапусцілі таксама некалькіх беларускіх кандыдатаў. Адзін з іх — Антон Мірановіч ад „праваслаўных" стаў нават радцам новай камуны. Для беларусаў Беластока на практыцы не мае гэта аднак вялікага значэння, бо нават пятэнцыяльных саюзнікаў у новай радзе горада пакуль што не відаць.

Татальны выйгрыш нацыянал-салідарніцкай кааліцыі абазначае таксама, што рэдакцыя „Нівы" не павінна мець нуднай будучыні. Пераможцам, якія неўзабаве пяроймуць уладу ў горадзе патрэбныя будуць новыя штабкватэры. Тое, што дзеялася 10—11 сакавіка г.г. было толькі пачаткам змагання за памяшканні, якія займае „Ніва". Неўзабаве трэба спадзявацца чарговых фокусаў, напрыклад, рэзкага павышэння арэнднай платы. Цяпер — як вядома — рэдакцыя плаціць у тры разы больш за квадратны метр, чым салідарнікі, якія маюць памяшканні на гэтым самым паверху.

У Беластоку, дзе жыве каля 60—70 тысяч праваслаўных, беларусаў па паходжанню, здаецца няма нават сэнсу змагацца за беларускую школу, мову ў царкве, навуковы ці культурны цэнтр. Зацкаванае і перапалоханае тутэйшае грамадства не будзе нават у стане прыняць усяго гэтага, калі б нават нейкая ўлада захацела нешта даць беларусам.

Іншая сітуацыя ў Бельску, Гайнаўцы і Гарадку. У Гарадку перамога камітэта Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, адкрыты і ясна акрэслены характар беларускіх кандыдатаў прымушаюць мяне пакланіцца ім з найвышэйшай пашанай.

Беларускім радцам з Гайнаўкі і Бельска толькі тады буду віншаваць, калі рашацца і змогуць узяць выканаўчую ўладу ў сваіх гарадах. На маю думку, трэба ўрэшце самым пачынаць вырашаць усялякія праблемы і браць адказнасць за тое, што робіцца. Ходзяць аднак чуткі, што некаторыя новаабраныя „нашыя" радцы хацелі б бачыць бурмістрамі ў гэтых гарадах „прыхільных беларусам" членаў агульнавядомых партый. Заблытаўшыся ў брудную — па сваёй натуры — палітыку, стараюцца яны паводзіць сябе як саракагадовыя дзеўкі, якія гарацца сваім дзявоцтвам.

У гмінах кабарэ толькі што пачынаецца. Перад намі выбары войтаў і старшынь рад. Тут толькі тады пачнецца сапраўдная палітыка.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

---

*) **балота** — у Францыі пры канцы XVIII стагоддзя так называлі дэпутатаў, якія галасавалі так, як дамінуючая група.

## ПАМАЛЮСЕНЬКУ, У НОРМЕ...

— сказалі ў чыжоўскай гміне, — выбары ў нас адбыліся, колькі трэба было, толькі і выбралі. У Раду гміны ўвайшоў, між іншым, дырэктар Пачатковай школы ў Кленіках Ян Лабузінскі. Удзельніцтва ў выбарах у Чыжоўскай гміне — больш-менш 30%. У самых Чыжах было вышэйшае. Ходзяць чуткі, што ёсць у Чыжах ужо некалькі кандыдатаў на войта...

Моцна драматычны характар мелі выбары ў суседняй Нараўскай гміне. Са старой Рады на наступную кадэнцыю перайшло шэсць чалавек. У новую Раду ўвайшлі дзве жанчыны, у ліку якіх дырэктар школы ў Ласінцы Вера Дудзіч. Другой жанчынай з'яўляецца Валянціна Садоўская з Трасцянкі — яна выйграла з, увага, Міхалам Астроўкам. Змаганне гэтае мела, бадай, самы драматычны ход — жанчына перамагла адным голасам. Выбарчая камісія, адчуваючы ўсю далікатнасць гэтай сітуацыі, тройчы падлічвала вынікі галасавання. У суседняй акрузе кандыдаваў войт мінулай кадэнцыі Ян Тапалянскі — перамог канкурэнта самай высокай у гміне прапорцыяй галасоў (41:9). Паліцыянт з мясцовага ў Нарве камісарыята ў выбарах не перайшоў, але ўзяў даволі шмат галасоў — 21.

Некаторыя кандыдаты, такія ходзяць па Нарве чуткі, плацілі выбаршчыкам за ўдзел у выбарах і аддадзены за іх голас — па 100 тысяч, а нават і па 200. Вядома пра гэта, бо некаторыя людзі пасля выбараў гаварылі ў краме: „Сёння магу зрабіць пакупкі, бо радны мне заплаціў". Радныя таксама давозілі выбаршчыкаў у выбарчыя пункты — у самой Нарве, з адной вуліцы на другую.

Першая сесія новай Рады мае адбыцца на працягу сямі дзён з моманту аб'явы афіцыйных вынікаў у „Маніторы". Парадак гэтай першай сесіі наступны: выбар старшыні Рады і яго намесніка, стварэнне камісій і назначэнне іх старшыняў, вызначэнне працэдуры вылучэння войта. Наконт кандыдатаў на гэтую пасаду ў Нарве пакуль ціха. Ян Тапалянскі падтрымлівае сваю ранейшую пазіцыю — кандыдаваць на войта не мае намеру, але хто ведае... Гаворыцца яшчэ ў Нарве, што бычцам адзін з кандыдатаў, які не прайшоў у Раду намерваецца стаць войтам. Ён жа, варта тут адзначыць, прайграў па жараб'ёўцы. Увогуле жараб'ёвак адбылося ў Нараўскай гміне дзве. У Храбустоўцы ды ў адной з выбарчых акруг Нарвы. Выбарчая ардынацыя ў выпадку, калі двух або больш кандыдатаў атрымала такую самую колькасць галасоў не пакідае ніякіх сумненняў — старшыня выбарчай камісіі ў прысутнасці ўсіх членаў гэтай жа камісіі праводзіць жараб'ёўку. Чытачу, мабыць, цікава будзе даведацца як тое фізічна адбываецца. У Нарве было гэта так. На дзвюх аднолькавых картачках (была прапанова, каб кінуць манетай, але адкуль ты сёння возьмеш тую манету) напісалі прозвішчы кандыдатаў, затым скрунулі іх у трубкі, вымяшалі і... старшыня камісіі пацягнула жэрабя (старшынёй была жанчына). Наканец усю гэтую працэдуру выбарчая камісія дэталёва апісвае ў пратаколе. Салёнасці гэтай сітуацыі, у выпадку Нарвы, прыдаў той факт, што жараб'ёўка датычыла мужа старшыні выбарчай камісіі. На шчасце, на яго і папала. Жанчына магла спакойна вярнуцца дадому.

**АЛЕСЬ МАКСІМЮК**

# ТАКІ ПРЭЗІДЭНТ, ЯКІ НАРОД

**„Народная газета" ў суботу 25 чэрвеня на першай старонцы дае вялізны загаловак: „Настрадавшийся народ ищет заступника". „Звязда" ў гэты самы дзень піша: „Лука-шок!"**

* * *

З ліку шасці кандыдатаў на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь двум ніхто не даваў шанцаў з самага пачатку: старшыні калгаса „Прагрэс" з Гродзеншчыны і адначасна старшыні Саюза аграрнікаў і Савета калгасаў Рэспублікі Беларусь **Аляксандру Дубко** ды сакратару Партыі камуністаў Беларусі **Васілю Новікаву**. Першы ішоў на выбары з лозунгам (чыста, як у Польшчы ПСЛ): „Краіне патрэбен гаспадар", а другі змагаўся за чысціню камуністычных ідэй — для яго нават сённяшні Вярхоўны Савет РБ, гэта „парламент буржуазнай рэстаўрацыі". Абодва ў сваіх праграмах не прыдумалі нічога, чаго б ужо не было раней у СССР.

Не нашмат у рэйтынгу папулярнасці абганяў іх былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, хаця і абяцаў: „ператворым Беларусь у заможную краіну". Галоўным, за што трэба пастаяць, лічыў ён „дзяржаўнасць, дэмакратыю, рынак". Але ў яго былі ўжо свае „пяць хвілін", казалі людзі.

Такім чынам, на змагарнай пляцоўцы засталіся фактычна: сённяшні прэм'ер-міністр **Вячаслаў Кебіч**, старшыня Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" і лідэр парламенцкай апазіцыі **Зянон Пазьняк** ды старшыня парламенцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй **Аляксандр Лукашэнка**. Ва ўсіх апытаннях, праведзеных па даручэнні ўрада, лідзіраваў Кебіч. А. Лукашэнка тым часам ездзіў па рэспубліцы, усюды „выкрываў" карупцыю, публічна „судзіў і саджаў" кіраўнікоў мафійных структур (чытай: урадавых), прысягаў, што далей так не будзе.

* * *

На вуліцах Менска ў апошні дзень перад выбарамі не відаць ніякай гарачкі. Амаль зусім не сустракаюцца плакаты, па тратуарах не валяюцца лістоўкі. Адно, што нагадвае аб заўтрашняй падзеі, гэта вялікія транспаранты над праспектамі Скарыны і Машэрава.

Гэта прадвяшчае дрэнныя вынікі для канкурэнтаў прэм'ер-міністра. Газеты, радыё і тэлебачанне поўныя Кебічам. За Кебічам публічна агітуюць такія вядомыя асобы, як шасцікратны залаты медаліст з Барселоны Віталь Шчэрба. Адзіным годным пераемнікам свайго бацькі лічыць Кебіча Наталля Машэрава. У выбарчую кампанію падключаны ўвесь саўмінаўскі апарат. Нават выбарчы штаб Кебіча — у Савеце Міністраў.

На няроўныя магчымасці правядзення выбарчай кампаніі звяртаюць увагу замежных карэспандэнтаў арганізатары прэс-канферэнцыі ва Управе БНФ. Старшыня ініцыятыўнай групы па вылучэнню кандыдатуры З. Пазьняка Уладзімір Анцулевіч паказвае на магчымасці фальшавання ўжо да тае пары. Галасаваць на Беларусі, — паясняю, — можна было ўжо з 13 чэрвеня, калі хтосьці па тых ці іншых прычынах не мог зрабіць гэтага 23-га. Падазрэнне выклікалі таксама паведамленні аб выбарах, высыланыя асобам, якіх у жывых не было ўжо па дзесяць гадоў.

Каб выбары былі правамоцныя, прыняць у іх удзел павінна прынамсі 50% грамадзян з правам голасу. У першым туры кандыдат можа стаць прэзідэнтам, калі за яго пойдзе палова важных галасоў. Калі ніхто з кандыдатаў не назбірае паловы, у другі тур пераходзяць два наймацнейшыя. У другім туры зноў патрэбная, як мінімум, прысутнасць паловы выбаршчыкаў.

☞ *Працяг на стар. 10*

# ПАН ПРАФСАЮЗНІК І ПРАФСАЮЗНІК-МУЖЫК

Прычынай гэтага артыкула стала інтэрв'ю са старшынёй магілёўскага Камітэта свабодных прафсаюзаў Беларусі, Сяргеем Абадоўскім, змешчанае ў „Газеце Вспулчэснай" ад 21 чэрвеня г.г. Інтэрв'ю нічога сабе, спадар старшыня выказваецца вельмі разумна — да ніводнага слоўца нельга прычапіцца.

Прачытаўшы гэтае інтэрв'ю, я проста здзівіўся, што такі разумны чалавек, гасцюючы ў беластоцкай „Салідарнасці", не знайшоў дарогі ў „Ніву", хаця яе рэдакцыя знаходзіцца на гэтым самым сумнавядомым калідоры. Маё здзіўленне ўзрасло, калі, распытаўшы сяго-таго, я даведаўся, што сп. Абадоўскі ў будынку на вуліцы Сураскай бывае даволі частым госцем. Такім чынам, не мог ён не чуць пра несуладдзе „Салідарнасці" з „Нівай".

У сувязі з гэтым успывае пытанне: чаму шаноўны госць не пацікавіўся праблемай, не спрабаваў даведацца пра тое, што тут дзеецца, з другога боку, пра абарону родзічаў ужо не ўспамінаючы. Відаць, старшыня змагаецца за свабоду і дэмкратыю селектыўна: калі яму выгадна, дык змагаецца, а калі не — голасу не дае.

А скуль, менавіта, такія паводзіны прафсаюзнага дзеяча? Калі не вядома, у чым справа, скажам: яна ў грашах. Грошы мае „Салідарнасць". Праўду кажучы, не свае, толькі амерыканскія. Славутая амерыканская прафсаюзная федэрацыя AFL CIO, якая рашуча падтрымоўвала „Салідарнасць" у час ваеннага становішча ў Польшчы, вырашыла, што трэба цяпер падтрымоўваць свабодныя прафсаюзы ва ўсёй усходняй Еўропе, у Беларусі таксама. Паколькі амерыканцы ў справах краін, пра якія ледзь чулі, зусім не разбіраюцца, вырашылі накіраваць падмогу праз польскіх таварышаў.

Беластоцкія „салідарнікі", як найбольш спрактыкаваныя ў цывілізацыйнай місіі сярод тубыльцаў—беларусаў, ахвотна ўзяліся за справу. І вось навучаюць дэмакраты беларускіх свабодных прафсаюзнікаў, вопытам дзеляцца. Амерыканскія грошы застаюцца, вядома, у польскіх настаўнікаў, але ж і беларускім вучням усё гэтае абучэнне небескарыснае. Хаця б працерціся ў свеце дазволіць.

Дык ездзіць наш Сяргей, кланяецца ўдзячна нават не пану, толькі аканому, і маўчыць, калі той голас уздымае ды тубыльцаў непакорных лае. Good luck, comrade Obodowski!

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# БЫЛА ТАКАЯ ШКОЛА...

З нейкім хваляваннем у сэрцы ехала я на гэты раз у Вільню. А нагода была не абы-якая — у Вільні 21 і 22 мая святкаваліся 75-я ўгодкі Беларускай гімназіі. Мой сяброўскі візіт у Людвікі Кардзіс-Вітушкі падпарадкаваўся амаль поўнасцю гэтай вялікай па плану імпрэзе. Атмасфера напружанасці ў сям'і Вітушкаў перадавалася і мне.

Пра Віленскую беларускую гімназію пачула я ад Мацея Канапацкага пару гадоў назад. Вучыўся ён у ёй у ваенны перыяд, а яго бацька, Хасан, быў тады старшынёй бацькоўскага камітэта. Здавалася б школа, як кожная іншая, якую кожны з нас закончыў, але ж цяжка мне было прыпомніць з маіх урокаў беларускай мовы ў пачатковай школе працу над словаўтварэннямі ці над прывіваннем нам, вучням, любові да нашай бацькаўшчыны. Тым больш асабліва чакалася сустрэча з былымі гімназістамі.

Марафон афіцыйных выступленняў (якія дэталёва апісаў Янка Жамойцін у 25 нумары „Нівы" ад 19 чэрвеня г.г.) закончыла мастацкая частка, у якой выступілі салісты Літоўскай оперы і балета, хор Таварыства беларускай культуры „Сябрына" з Вільні і вучні. У даволі багатай праграме, на жаль, не было ніводнага верша Наталлі Арсенневай, Францішка Грышкевіча, Хведара Ільяшэвіча, Ігната Дварчаніна ні песні хаця б настаўніка музыкі ў гімназіі Альбіна Стэповіча. „Купалінку", „Цячэ вада ў ярок", „Ты мой брат..." А. Гаруна і вершы М. Багдановіча чуем мы пры кожнай нагодзе, а тут нагода асаблівая і можна было паказаць творчасць былых вучняў і настаўнікаў гімназіі. Гэта ж спрыяе гістарычнай памяці і стварэнню традыцыі, а без іх кволымі становяцца ўсе намаганні. Але астаецца мець надзею, што будзе існаваць традыцыя, а можа нават і легенда ВБГ. А пакуль што яўным становіцца доказ, як моцна мы адарваныя ад сваёй гісторыі, ад яе ўспрымання, як нечага вядомага і свайго.

Пасля на двары Базыльянскіх муроў зрабілі супольны здымак былых гімназістаў. На памяць. Мацея Канапацкага распазнала сяброўка з класа Соня Сіняўская-Тулейка. Потым быў супольны абед, а ўвечары — банкет у гонар 75-х угодкаў ВБГ.

Раніцай, у нядзелю, 22 мая, ад'езд аўтобусам на праваслаўныя могілкі ў Ліпоўцы і на Росу, каб ускласці кветкі на магілы былых вучняў і настаўнікаў гімназіі. На мяне асаблівае ўражанне зрабілі праваслаўныя могілкі, на якіх пакоіцца многія руплўцы беларускай справы. Нейк заўсёды мае экскурсіі па Вільні канчаліся на Росе, дзе спачываюць сном вечным Антон Лявіцкі, Канстанцін і Альбін Стэповічы, Уладзіслаў Талочка, Лявон Дубейкоўскі, Уладзіслаў Паўлюкоўскі, Станіслаў Станкевіч, а таксама знаходзяцца помнікі Івана і Антона Луцкевічаў і Францішка Аляхновіча.

Паехаўшы з Людвікай раней на праваслаўныя могілкі ў Ліпоўку (20 мая), па дамоўленасці з Лявонам Каралём, супольна шукалі мы магілы. Са спадаром Лявонам была ягоная сяброўка Зоя, маці якой працавала ў гімназіі. Даволі хутка знайшлі мы цікавўшыя нас магілы. Было іх столькі многа, што, здаецца, не ўсе нам запамяталіся. Старалася я ўвекавечыць іх на здымках. Пры нагодзе парадкавалі мы прызабытыя магілы. Калі мы вырывалі зелле на магіле Аляксандра Міхалевіча, праходзячы міма нейкі дзядзька запытаў: „А хто вы будзеце? Сюды ніхто не прыходзіць".

Спачываюць у Ліпоўцы настаўніца Алёна Сакалова-Лекант, Сяргей Паўловіч, Мікола Анцукевіч, Васіль Кавалевіч, Язэп Шнаркевіч, Ніл Кульчыцкі, Павел Каруза, Іван Цеханоўскі — дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі. Гэта далёка не поўны пералік. Не знайшлі мы магіл Хведара Ільяшэвіча і Тодара Вернікоўскага.

Дзякуючы спадару Лявону і спадарыні Зоі ўсе асобы ажылі ва ўспамінах, а 22 мая на іх магілах ляжалі кветкі. Пасля ўскладання кветак, усе адправіліся ў школу н-р 13 на канцэрт калектыву „Бліскавіца" з Менска.

У 16 гадзін — самая цікавая імпрэза — сустрэча былых настаўнікаў і вучняў гімназіі ў Таварыстве беларускай культуры на вуліцы Жыгімонту. Кожны ўдзельнік сустрэчы ўспамінаў пра свой час у гімназіі, сваё жыццё. Былі і супольныя спевы. У сустрэчы ўдзельнічалі былыя настаўнікі: Вера Спорык-Шостак (англійская мова, у гадах 1933—1937), Зоя Новік (нямецкая мова, спевы, у гадах 1939—1943) і вучні: Лявон Луцкевіч, Яўгенія Шляхтун-Ярмалковіч, Галіна Войцік, Соня Сіняўская-Тулейка, Яўгенія Шостак, Яраслаў Станкевіч, Сяргей Падагед, Леанід Кароль, Зоя Коўшанка, Мікола Рулінскі, Надзея Стацько, Уладзімір Парфенаў, Пётр Новік, Вера Путрыкевіч, Мацей Канапацкі.

Сустрэча была прасякнута ўспамінамі, а мне ўсе яны бачыліся вельмі маладымі, жвавымі дзяўчатамі і хлапцамі. Ва ўспамінах адчувалася прывязанасць да роднай школы, узаемная падтрымка. А самае важнае тое, што хаця лёс раскінуў іх усіх у розныя мясціны і прайшло шмат гадоў, яны ўсё ж такі асталіся беларусамі. Ці гэта дзякуючы гімназіі? Відаць, так яно і ёсць. Таму трэба даражыць нам такой жывой гісторыяй і намагацца, каб як найбольш з яе асталося ў памяці нас, маладога пакалення, якое такія з'явы, як Віленская беларуская гімназія ўспрымае як далёкую, не перажытую намі гісторыю. Таму трэба даражыць кожнай крошкай успамінаў, каб гісторыя ВБГ не пайшла ў забыццё. А вы, дарагія гімназісты і настаўнікі, дзеля гістарычнай памяці спішыце свае ўспаміны, каб пакінуць па сабе след у гісторыі для будучых пакаленняў, каб маглі яны ісці па пракладзеных сцяжынках і слядах, а не блукаць, шукаць і вучыцца на ўласных памылках. Зрабіце гэта для нашай беларускай будучыні. У вашай сустрэчы было нешта незвычайнае — пасля многіх гадоў разлукі ўсіх вас злучыла супольная школа: Віленская беларуская гімназія!

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

# БЕЛАСТОЦКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ ЗБЛІЗКУ

Што б ні гаварыць аб пераменах у Польшчы, яны вялікія. Адной з асноў гэтых перамен была самаўрадавая рэформа, у выніку якой мясцоваму самакіраванню перададзена была частка кампетэнцый дзяржаўнай адміністрацыі. І хаця гэтая частка была не так і вялікая, усё-такі самаўрады здолелі сябе праявіць у дзеянні за апошнія чатыры гады і могуць цяпер дзяліцца сваім вопытам з іншымі.

Аб тым, што ёсць што пераймаць ад польскіх самаўрадаўцаў, пераканалася група беларускіх дэпутатаў, навукоўцаў і журналістаў з Гродна, Віцебска і Магілёва, якая пабывала ў Беластоку з 15 па 21 чэрвеня. Іхнюю паездку з беларускага боку арганізаваў Фонд імя Льва Сапегі, які займаецца падтрымкай дэмакратычных рэформаў у Беларусі, а з польскага — Фонд развіцця лакальнай дэмакратыі, а канкрэтна — яго Цэнтр абучэння ў Беластоку. Спонсарам усяго мерапрыемства быў Фонд імя Стэфана Баторыя, які займаецца распаўсюджваннем ідэй дэмакратычнага грамадства ва ўсёй Сярэдняўсходняй Еўропе.

Беларускія госці за некалькі дзён правялі шмат візітаў і сустрэчаў, знаёмячыся з працай Гмінных рады і Управы ў Супраслі, Гарадской рады і Управы ў Беластоку ды Самаўрадавага сейміка Беласточчыны і Ваяводскай управы, а таксама з больш спецыялістычнымі ўстановамі, як Ваяводская выбарчая камісія і Рэгіянальная разліковая палата.

Нялёгка было гасцям разабрацца ў існуючай у Польшчы самаўрадавай сістэме і яе суадносінах з апаратам дзяржаўнай улады, усё-такі, сустрэча за сустрэчай, узнікаў у іх вачах вобраз мясцовага самакіравання, яго поспехаў і паражэнняў. Перш за ўсё, думаю, стала для іх ясна, што сістэма самакіравання толькі будуецца, шляхам спроб і памылак ды няспынных пераменаў. Тым не менш, агульны поспех самаўрадаўцаў настолькі відавочны, што гаспадары не мусілі спецыяльна паказвацца перад гасцямі.

Усе прадстаўнікі самаўрада падкрэслівалі, што выбары, за ходам якіх наглядала беларуская дэлегацыя, наведваючы ў нядзелю выбарчыя ўчасткі, з'яўляецца для іх сапраўдным паказчыкам вынікаў іхняй працы. Тое самае гаварылі і пераможцы і пераможаныя. Найбольш упэўнены ў свой поспех быў бурмістр Супраслі, як аказалася, слушна. У нядзелю выбаршчыкі прагаласавалі за ім гуртам. Гэта сведчыць пра тое, што выбаршчыкі не такія ўжо падатлівыя на пустазвонства і ўмеюць ушанаваць добрага гаспадара.

Госці з Беларусі пазнаёміліся таксама з „Нівай" і БГКТ. Якраз знаёмства з рэальнай сітуацыяй беларускай меншасці ў Беластоку стала для некаторых з іх, якія прыехалі сюды з усходняй Беларусі, нечым зусім нечаканым. У іх вачах трэснуў міф, што быццам бы „сапраўны беларус жыве ў Беластоку". Хапіла паглядзець мізэрныя варункі, у якіх працуюць тут беларускія ўстановы. Такім чынам, маглі яны пераканацца, што мясцовая дэмакратыя праблемаў нацыянальнай меншасці якраз не вырашыла. Усё-такі, думаю, што станоўчы бок дасведчання намнога выжнейшы за адмоўны. Хацелася б, каб як найбольш беларускіх грамадскіх дзеячаў пабачыла, што не так ужо страшна быць самому сабе гаспадаром. Каб толькі Вялікаму спонсару, спадару Сорасу, грошай хапіла...

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

## ЯКОЕ МЕСЦА НА КАРЦЕ НАШАЙ АЙЧЫНЫ, ПОЛЬШЧЫ ТАБЕ НАЙБОЛЬШ МІЛАЕ І ДАРАГОЕ? ЧАМУ?

*(фрагменты вучнёўскіх прац; працяг)*

Я нарадзілася на Гайнаўшчыне. Гэта мая айчына, найбольш любімае і дарагое месца. Люблю яго таму, што тут нарадзілася, правяла шчаслівае дзяцінства, тут першы раз пайшла ў пачатковую школу, потым у беларускі ліцэй. Моцна звязвае мяне з Гайнаўшчынай і тое, што тут жылі мае прадзеды, жывуць дзяды і бацькі.

Ёсць такая песня: „З чаго начынаецца Радзіма?" Адзін з беларускіх пісьменнікаў сказаў: „Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма". Я згодна з гэтым. Люблю Гайнаўшчыну і за тое, што тут у асноўным жывуць беларусы, бо і я адчуваю сябе беларускай. З самага пачатку я звязана з тутэйшай культурай, якую люблю. Трэба моцна падкрэсліць, што яна вельмі цікавая, разнастайная і багатая. Людзі, асабліва старэйшыя, ведаюць многа беларускіх песень, вершаў, казак, легенд. Беларусы — гэта цікавы народ: працавіты, бо „нельга жыць не працуючы", — як кажа мая бабуля, — гасцінны, вясёлы, сардэчны. Вельмі добра, што і наша моладзь крыху цікавіцца беларускімі звычаямі: мы калядуем, чытаем беларускія кнігі, прымаем удзел у беларускіх конкурсах. Шкада толькі, што ўсё менш такіх людзей і тым самым беларуская культура на гэтай тэрыторыі знікае.

Я люблю таксама сваю прыроду. Іншы беларускі пісьменнік сказаў: „Радзіма пачынаецца з таго, што першае прыходзіць у нашы дзіцячы вочы: з роднага парога, з роднай сасны ці бярозы, з роднай крыніцы, роднага поля, роднай сцяжынкі". І з гэтым я таксама згодна, а прырода наша разнастайная. Многа тут зялёных лугоў, шырокіх палёў і самы вялікі і прыгожы лес — Белавежская пушча. Я жыву ў маленькай вёсцы, распаложанай у цудоўным месцы, якраз на ўскраіне гэтай пушчы. З вялікай ахвотай вяртаюся са школы дадому — ціхага, спакойнага і ўтульнага месца.

Я заўсёды буду любіць сваю бацькаўшчыну і ніколі пра яе не забуду.

* * *

Гэтым цудоўным і каханым месцам з'яўляецца Гайнаўшчына — зямелька родная, якая ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы. Тут я першы раз выказала цудоўныя словы: *мама, тата*, тут я ставіла не заўсёды ўдалыя першыя крокі, у гэтым месцы прайшлі самыя цудоўныя хвіліны майго дзяцінства.

Пейзаж нашай старонкі вельмі прыгожы. Ён захапляе цішынёй і спакоем нашай прыроды, гоманам спелае нівы на нашых вясковых палетках, шумам высокага лесу, песняй магутных белавежскіх дубоў.

Я з першых гадоў вывучаю ў школе беларускую мову, на ёй гавораць мае бацькі і для мяне яна стала роднай мовай, роднымі сталі вясёлыя беларускія песні. Цяпер я вучуся ў беларускім ліцэі, і, думаю, што гэта сведчыць аб тым, што лічу сябе беларускай.

Я думаю, што найдаражэйшая мне Гайнаўшчына і таму, што тут нарадзіліся і жывуць таксама мае бацькі і дзяды, тут пахаваны мае продкі, магілы якіх я магу наведваць. Тут жыве мая сям'я, сваякі і ўсе найлепшыя сябры. Да гэтага месца збліжаюць нас усе абычаі нашых продкаў. Мне вельмі падабаюцца святочныя абычаі, напрыклад, калі мы ходзім калядаваць, усе прымаюць нас вельмі сардэчна, радасна. І наогул у нашай старонцы людзі заўсёды вельмі ветлівыя, сардэчныя, вясёлыя, умеюць цешыцца жыццём, смяяцца, падтрымоўваць традыцыі. На вёсках існуюць калектывы, песні якіх заўсёды развесяляюць душу. Штогод арганізуюцца ў нас конкурсы песні, фестываль царкоўнай музыкі, моладзь сустракаецца на „Басовішчы", на Купаллі.

На Беласточчыне большасць людзей праваслаўнага веравызнання і гэта таксама нас усіх збліжае. Кожнага цягне ў царкву, да сваіх людзей, з якімі можна аб усім пагаварыць, якія зразумеюць і заўсёды дапамогуць. Вельмі прыемна сустракацца на Святой Гары Грабарцы, там заўсёды мілы, цёплы настрой, як быццам усе былі даўно знаёмымі.

Я шчыра кахаю родную старонку і не памяняю яе нізавошта на свеце. Дзе б мяне лёс не закінуў, заўсёды знайду пуцявіну на родны бацькоўскі парог, хаця мая родная вёска Дубіны і не значыцца на карце.

*(працяг будзе)*

**Да друку падрыхтаваў ВАСІЛЬ САКОЎСКІ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

З гісторыі Беларусі

## ЧАЧЭРСК

Тое, што ў сівыя стагоддзі зямелька наша ўяўляла сабою вечназялёны аазіс — ні для каго не сакрэт. Паўсюдна вадзіліся розныя звяры і птушкі. Не была выключэннем і тагачасная Гомельшчына (гэта ўжо калі брацъ у сучасным падзеле). Край быў надзвычай прыгожы, краявіды непаўторныя. Хто сюды трапляў хоць раз у жыцці, той ніколі не забываўся пра яго да самай смерці. А рэчак ды азёраў, вялікіх і малых, колькі было! З такой вось невялічкай рэчкі і пачынаецца наш аповяд пра ўзнікненне горада Чачэрска.

Аднаго разу па вузкай лясной рачулцы плыў багаты князь са сваёй дружынай. Разам з ім была і яго адзіная дачка, бо маці загінула яшчэ тады, калі князёўна ледзьве пачала хадзіць, ад варожай стралы, пушчанай ворагам падчас аблогі родавага замка. Таму бацька і вазіў дзяўчыну заўсёды з сабою, калі на паляўнічыя ловы ехаў ці на бітву з чужынцамі.

Плылі яны не першы ўжо дзень, імкнуліся трапіць у Сож, а адтуль — у магутны Дняпро, які вынес бы іх на сваіх хуткіх хвалях прама да слаўнага горада Кіева, а там яшчэ далей — ажно „ў грэкі". Бачыў князь, бачылі ягоныя дружыннікі, якая прыгажосць навокал, што край гэты вольны, нікім пакуль што не заняты і не заселены. А якое б цудоўнае жыццё чакала іх тут! І навошта шукаць нейкія прыгоды, якія невядома яшчэ чым могуць скончыцца, калі ўсё неабходнае для існавання можна ўзяць тут. І князёўна чагосьці сумаваць пачала. Відаць, таксама не надта хацелася ёй плыць у нязведаную далячынь. Падышла яна да сівога князя і ціха спыталася: „Тата, а навошта нам ехаць з гэтага краю? Глядзі, якая прыгажосць! Якая рэчанька! Усё роўна, як цяцера, што распусціць скрыдлы і хвост, раз'юшыцца, а потым гэтак жа сцішыцца... Пагляздзі, які хутка прывабны лужок раскінецца перад намі, а за ім высачэзная гара над самаю ракою? Давай тут і застанемся назаўсёды..."

Суровы вой, над нечым задумаўшыся, нечакана ўсміхнуўся: „Кажаш, рэчка, як цяцера... Цяцерка... Вось і назва ёй! А можа, і сапраўды тут супыніцца?.. Ну што ж, калі ты гэтак просіш, то і я не супраць..." — і загадаў прыстаць да берага насупраць гары.

З таго часу так і павялася назва рэчкі — усё Цяцера ды Цяцера, потым і Чачэрай стала, а ўжо ад яе і паселішча назвалі Цяцерск — Чачэрск.

**АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ**





*Шасціґодкі з Сакоў.* **Фота Г. Кандрацюк**

## ВОЎК І КЛУБОК

Стаяла каля цёмнага лесу хатка. А ў той хатцы жыла бабулька і вязала ўнуку ваўняныя рукавічкі. Маленькі коцік памагаў ёй разматваць клубок. Ды так напамагаў, што закаціў клубок аж у дрымучы лес.

Убачыла клубок ліcіца-хітрыца і гукнула: — Воўк, воўк, бяжы сюды. Я нешта знайшла.

Прыбег воўк, а лісіца і кажа: — Бяры еш вожыка. Ён цяпер ліняе, дык пагубляў свае іголкі.

Схапіў воўк клубок, праглынуў і вочы зажмурыў. Адчуў, што не вожык гэта.

— Што ты, ваўча, натварыў? — сказаў кот. — Ты ж з'еў бабулін клубок.

— А што мне рабіць? — завыў воўк.

— Не варушыся, — сказаў кот, — а то парвеш нітку, сам загінеш і клубок наш прападзе. Пойдзем да бабулі параімся.

Выслухала бабуля, што расказаў кот, ды кажа ваўку: — Я буду вязаць унуку рукавічкі, а ты сядзі, воўк, спакойна, пакуль не разматаецца клубок.

Сядзіць воўк з разяўленай пашчай, а бабуля робіць рукавічкі і казкі расказвае, каб весялей было.

А казкі тыя пра Чырвоную Шапачку і шэрага Ваўка ды пра розныя ваўчыныя хітрыкі.

Слухае моўчкі воўк, толькі вачыма моргае. А бабуля ўсё расказвае ды расказвае, колькі шкоды робяць ваўкі людзям.

Сорамна стала ваўку за сваіх бацькоў, братоў, суседзяў. І папрасіўся ён у бабулі, як скончыўся клубок, застацца на двары вартаваць хату.

Так з'явіўся першы сабака ў людзей.

**ІЛЬЯ ШАХРАЙ**



Называем па-беларуску

## БАРАВІК

„Грыбок, адыдзі на бок, баравік едзе! Баравік — цар грыбоў. Баравік — усім грыбам палкавік!.." Як бачым, Адам Міцкевіч не сам прыдумаў гэтаму грыбу высокае вайсковае званне. У нашым фальклоры захаваліся песня і жарт пра вайну грыбоў: „Крыкнуў баравік пад сасонкаю: збірайцеся, грыбоўе, са мной на вайну!" І чаму нашы прашчуры прыпісалі першаму сярод грыбоў вайсковыя амбіцыі і ваяўнічыя намеры? Пэўна ж, часцей праўдзівы грыб лагодзіў. Не адна душа „заходзілася" ад радасці, як, прыкладам, у малога Міхася, героя Коласавых „Міхасёвых прыгодаў".

Баравікоў насушвалі вязкі. Хапала іх на ўсю зіму, імі спаталялі голад, спажывалі ў пост. А на куццю варылі абрадавую страву. Памятаеце, у „Новай зямлі": „Аздоблен квас быў і грыбамі, выключна ўсё баравічкамі". У інвентарах беларускіх маёнткаў можна прачытаць пра абавязак прыгонных збіраць грыбы і прыносіць даніну грыбамі, прыкладам: з кожнае паўвалокі зямельнага надзелу — капу (шэсцьдзесят) баравікоў.

У нашых лясах расце некалькі відаў гэтага грыба: бярозавы, грабавы, дубовы, яловы, хваёвы. Але паўсюдна ў Беларусі ўсе яны называюцца баравікамі і толькі дзе-нідзе — праўдзівым грыбам, добрым грыбам, праўдзівым, дабраком. У навуцы баравік вядомы толькі пад адной назвай — балетус эдуліс.

**ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО**

## ГЛЯДЗІЦЕ Ў КОШЫК!

**Белая паганка** лічыцца самым ядавітым грыбам у свеце. Пасля ўжывання ў ежу пачынаюцца ваніты, трызненне, страта прытомнасці, і праз 6—15 гадзін наступае смерць. Вядома, што прычынай смерці 25 верасня 1534 года кардынала Джуліа ды Медычы, папы Клімента з'явілася атручэнне гэтымі грыбамі.

## „ПЯТРОК"

Пётр і Павел („Пятрок"). Гэтаму дню папярэднічаў Пятроў пост („Пятроўка-галадоўка"), які пачынаўся праз тыдзень пасля Сёмухі і выклікаў асаблівую незадаволенасць у мыжчын-касцоў (ён называўся імі „бабскім" постам, які нібыта выдумалі жанчыны ад неразумення цяжкой працы на касьбе ў гэты перыяд). У Пятроўку трэба было ліпы драць на лыка, бо пазней ужо кара прысыхае. Народам было заўважана: калі гразь у Пятроўку, то ўлетку будзе добры ўраджай. На Пятра ўжо можна было разгавецца: „Жджы Пятра — сыр з'ясі". А таму, хто ігнараваў звычай, пагражалі не дачакацца таго ж разгавення на наступны год. Валачобныя песні, згадваючы Пятра, называюць шэраг разнастайных сялянскіх заняткаў, што праводзяцца ў гэтую пару, а такcама ўказваюць на стан збажыны: „Святы Пётра ў косы звоніць, святы Паўла граблі робіць". Пад звона косаў „святы Пятро талаку збіраў копы сена вазіць, стагі мятаць". Ён таксама „папар баранує, поле раўнуе, грунт гатуе", ды яшчэ „жыта родзіць", „жытцо спяліць" („Святы Пятро — жытцу ядро"). А гэта значыла — трэба ўжо і сярпы вастрыць, бо „з Пятрова дня ў полі пажня" (зялёны пакос).

Па дню Пятра народныя метэаролагі прадказвалі ўраджай, пагоду і непагадзь і размяркоўвалі свае заняткі: „Калі на святога Пятра дождж, будзе жыта, як хвошч"; „На Пятра дождж — сенакос мокры"; „Калі з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць"; „Калі на Пятра дождж, то на Новы год будзе страшная мяцеліца".

Лічылі, што зязюля кує ад Юр'я да Пятра, пасля чаго замаўкае, нібыта падавіўшыся ячменным коласам, які пад гэту пару выходзіць з трубак. Адхіленні ад згаданай заканамернасці ведалі і заўважалі: „Калі зязюля перад Пятром перастане куваць, то будзе восень халодная і ранняя зіма"; „Калі зязюля на Пятра кує, то восень будзе цёплая, а зіма — па Усіх Святых (1 лістапада) стане"; „Калі зязюля перастане куваць за два тыдні да Пятра, то тое лета будзе ўраджайнае і спакойнае". Як напамінак пра паварот да наступнай пары года гучыць прыказка: „Прыйшоў Пятрок — апаў лісток". Дзе-нідзе на Пятра і на Сёмуху спраўлялі вяселлі, і гэта не абміналася трапным народным словам: „Да Пятра дзеўка хітра, а па Пятры — хоць твар ёю падатры" (да Пятра, значыць, стараецца спадабацца хлопцу і выйсці замуж, калі ж намаганні марныя, яна мусіць чакаць наступнай пары вяселляў, калі ў хату заявяцца сваты).

**УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Цёця, разяў рот, — папрасіла маленькая дзяўчынка жанчыну, што прыйшла да іх у госці.
— Чаго ты не бачыла ў маім роце? — пытаецца тая.
— Мая мама казала тату, што ў цябе вельмі доўгі язык.

* * *

— Мама, ты бачыла вярблюда?
— А што гэта такое?
— Гэта такая жывёла, — кажа сын, — што можа восем дзён працаваць і нічога не піць.
— Эгэ, твой бацька лепшы фокус умее: восем дзён п'е і нічога не робіць.

* * *

— Ёзік, хто пабіў вам акно?
— Мама пабіла, але гэта па татавай віне.
— Чаму?
— Бо калі мама кінула ў яго валком, ён схіліўся.

* * *

— Мама, — кажа сынок, — нашага татку здымаць будуць, а чаго ён такі невясёлы? Помніш, калі нас з табою здымалі, дык мы ўвесь час смяяліся.

* * *

Духоўнік, навучаючы ў школе рэлігію запытаўся ў вучня:
— Што абазначае слова „сімвал”?
Вучань падумаў і адказаў:
— „Сім” нічога не абазначае, а „вол”? Ці гэта не бычок?..

* * *

Настаўнік пытае вучня:
— Чаму салавей, спяваючы песні, заплюшчвае вочы?
— Каб усе ведалі, што ён умее іх напамяць!

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

*НІНА ГАЛІНОЎСКАЯ*

## ХАТА

*Казка*

На сход сабраліся звяры.
— Мне жыць не хочацца ў нары, —
Ліса гаворыць хітравата, —
Давайце мы збудуем хату.
Мядзведзь сказаў:
— Я б дапамог,
Бо вельмі цёмны мой бярлог.
— Я згодзен, — кажа воўк зубаты.
— Канечне, нельга жыць без хаты, —
Нясмела вымавіў шарак.
Узімку холадна нам так!..
Дзве сцяны ўзвёў мядзведзь —
Нават люба паглядзець.
Воўк і заяц не адсталі:
Па сцяне раўнюткай склалі.
— Сёння возьмемся за дах.
— Дзе ліса?
— Яна ў кустах.
— Гэй, ліса, твая чарга!
— Каб я, Мішачка, магла.
Як падумаю пра дах —
На мяне находзіць страх.
Я баюся вышыні.
Ты ж — ніколечкі, ані!
— Гавары, ліса, з ваўком.
Не паможа —
З шараком.
Ліска тут жа да ваўка:
— Вось табе мая рука.
Мы сябруем або не —
Пажамы, саколік, мне.
Не забуду я сваіх:
Будзе певень на дваіх.
— Згодзен, — кажа воўк лісе, —
Пасцялю я дошкі ўсе —
За цябе і за сябе.
Хай там певень наш дзяўбе
І пшаніцу, і авёс,
Каб да вечара падрос.

Свеціць сонцам новы дах.
Да ваўка ліса:
— О жах!
Певень скокнуў у раку,
Заспяваў ку-ка-рэ-ку-у!
І — да дзеда, да бабулі.
— Нешта спеву мы не чулі.
— Малатком ты грукацеў —
Заглушыў птушыны спеў.
Зараз любы, я пайду
Па крынічную ваду.
Піць ахвотна нездарма —
Певунка ў жывых няма.
Назаўтра ўсім сказаў мядзведзь:
— Сягоння трэба нам паспець
Пасцаць падлогу,
Зашкліць акенцы,
Паставіць дзверы
У хаце, сенцах.
— Марудна,
Цяжка слаць падлогу,
Паклічу зайца на падмогу,
Яму знаёма гэта справа, —
Ліса — да зая і ласкава:
— Мы сябруем або не —
Памажы, саколік, мне.
А я збегаю да ўзгорка.
Там расце такая морква!
Прынясу табе мяшок.
— Добра, — кажа шарачок.
Вось гатова і падлога —
Гладка з кута да парога.
Скача сонейка па шыбах.
— Ну і хата, церам нібы!
— Мы стварылі цуд такі,
Мы — звяры-будаўнікі!
Наша дружная чацвёрка!
— Дзе ж ліса?
— Пайшла па моркву.
А з кустоў:
— Я не паспела.
Плечы крышачку пагрэла.
— Ясна ўсё, —
Сказаў мядзведзь, —
Можаш ты і хвост пагрэць.
Тры сталы стаяць у хаце,
Тры падушкі на палацях.
Тры дубовых табурэты,
Маляваных тры партрэты,
Тры талеркі, тры відэльцы,
Тры плашчы вісяць у сенцах.
На стале — тры кубкі, лыжкі.
На паліцы — кніжкі, кніжкі...
Тэлевізар, стол, люстэрка,
Тры прыгожыя куфэркі,
Тры мятлы, адно вядро.
Колькі ж тут жыве звяроў?
Хто застаўся з іх без хаты
І хто ў гэтым вінаваты?




*Пётр Адзіевіч з Пачатковай школы н-р 2 ў Бельску — I месца сярод старэйшых салістаў.*

**Фота М. Ваўранюка**

## Вершы Віктара Шведа

### ЁН НАРАДЗІЎСЯ Ў АКУЛЯРАХ?

— Чаму, — спыталася малая, —
Наш татка акуляры мае?
Чытае ён заўсёды ў ночы
І папсаваў, вядома, вочы?

— Загану зроку, — кажа матка, —
Мае ўжо ад калыскі татка.
Маме на гэтае Тамара:
— Ён нарадзіўся... ў акулярах?

### ТРАКТАР У ГУМАВЫХ БОТАХ

— Цвёрды мае тата характар,
Хоць гэта, думаю, нядрэнна.
Купіў нарэшце новы трактар,
Хоць ён і дарагі страшэнна.

Пачулі раптам ад Рыгора,
Што ціхенька стаяў пад плотам:
— Трактар прыйшоў на панадворак
У гумавых вялізных ботах!

### РАЗРАДКА

Настаўніца пытае Ўладка:
— Скажы мне, што гэта разрадка?
Пытанне хлопчыка трывожыць,
Ён адказаць ніяк не можа.

— Я памагу табе змагацца:
Што робіць бацька пасля працы?
— На гэтае пытанне мама
Не можа адказаць таксама.

## ЛАГАГРЫФ




1. чалавек з фізічным недахопам, напр. без рукі або нагі,
2. расліна, з якой грэцкая каша,
3. дзяржава японцаў,
4. даўняя мера адлегласці на Русі,
5. лясная расліна з малінавымі сакавітымі ягадамі,
6. жыхары Венгрыі.

Вылучаныя літары складуць назву ткацкага станка.

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

### 5
### ЯК БРЭХ СТАЎ ДЗІКАМ

Шчанюк змалку трымаўся вельмі салідна. Павольна хадзіў, бегаў трухам, не спяшаючы, таксама не хапаючыся еў. І галасу без толку не падымаў, ніколі не заходзіўся брэхам ад першага шолаху за акном ці на гародзе.

Злавіўшы вухам шум ці гукі, пакуль чутныя яму аднаму, падымаў з падсцілкі галаву і клаў яе на лапы, каб расслухацца: абвяшчаць трывогу ці драмаць сабе паціху далей. Калі ўчуты шум не ўпыняўся, сабака падымаў галаву вышэй і надаўжэй і каротка папяраджваў: „Бб-боў!” Так ён нібыта даваў знаць: я — напагатове, але не турбуйцеся, небяспекі блізка няма.

Другой ступенню зрыхтаванасці да абароны было нешта сярэдняе паміж „бб-боў”, „бб-бух” і „бб-рэх!” Але сігнал падаваўся значна гучней і паўтараўся двойчы. Гэта азначала: парушэнне спакою набліжаецца, чуецца зусім выразна.

Сабака ўсхватваўся на лапы, боўкаў разы тры і ваяўніча станавіўся каля ўвахода. Калі нехта незнаёмы хадзіў пад вокнамі ці браўся за клямку, боўканне падвышалася на ўвесь голас, з перапынкамі, і сур’ёзна: лепш не патыкайся, маўляў.

Усе гэтыя звычкі сабака захаваў і надалей: заставаўся непаспешным на бягу і на ежу, легкаважных высноў наконт небяспекі не рабіў і лішняга галасу не ўчыняў.

У адным толькі быў скоры: збірацца гуляць. Зачуўшы ўлюбёнае слоўца і ўявіўшы, колькі прыемных нечаканак можа трапіцца падчас праходкі, ён ужо ўстояць на месцы не мог. Радасна цяўкаў і грудзьмі адчыняў дзверы ў калідорчык. А тут — стоп! Далей сам не выврешся — знадворныя дзверы на зашчэпцы.

Не шкадуючы лап, сабака кідаўся ў пакой да вешалкі, дзе апранаўся занадта павольна, як на яго нецярплівасць, а часам і знарок, каб падражніцца, ягоны праважаты. Радаснае павіскванне рабілася настойлівым і, здавалася, пераходзіла ў слоўную просьбу: „Ды не марудзь ты, калі ласка! Уздзявай хутчэй паліто, калі яно табе ўжо гэтак трэба, я ж і ў хаце і на дварэ ў адной адзежы бегаю!”

Пачуўшы паасобны сігнал „ббботў!”, звычайна гаварылі: „О, сабака зрабіў адзін брэх!” І далей: „Чуеце, падае трэці брэх. Трэба ісці паглядзець, што там”.

Так пакрысе пачала ўсталёўвацца мянушка. Сямейная нарада памеркавала і ўхваліла:

— Брэх у яго прыемны, барытон мяккі, хоць у салісты аддавай. Значыць, быць яму Брэхам.

З гэтым імем сабачка пахадзіў не вельмі доўга. Ён прыбываў у росце літаральна што дня, уздоўж шэрага хіба сталі значны тры цямнейшыя палосы, акурат як у дзікіх парсюкоў.

Паляўнічы Валянцін няйдбала выслухаў цьмяную легенду аб паходжанні нашага выхаванца.

— Нешта вельмі складана. А ці не свінячага ён заводу? Чысты дзік, — і тыцнуў пальцам на цёмныя палосы поўсці на спіне.

Усе дружна сталі пярэчыць: ні з характару, ні з выгляду наш мілы сабачка і блізка не стаяў да названай жывёліны, ні свойскай, ні дзікае.

А „Дзік” — была знаходка! Тое імя, што трэба. Асцярожны, але не баязлівы, кемлівы, хада — спорная, слых — пашукаць трэба, усё гэта прыдаецца і дома, і ў лесе, дзе птушкі і звяры трымаюцца ў заўсёднай асцярозе, каб не дацца ў крыўду дужэйшаму.

Дык чаму ж бы не ахрысціць яго Дзік?

Ад гэтай часіны шчанюк займеў імя назаўсёды.

*(працяг у наступным нумары)*
**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

# Прафесар Уладзімір Гніламёдаў: ЯК Я АДЧУВАЮ „БЕЛАВЕЖУ"

— Калі я зацікавіўся вашай, „белавежскай" літаратурай? Гэта было недзе на пачатку шасцідзесятых гадоў, калі трапіла мне ў рукі „Ніва". Вось тады я даведаўся, што на Беласточчыне існуе свая беларуская літаратура, ёсць цікавыя паэты і празаікі. Беласточчына як-ніяк для мяне край вельмі блізкі, бо я сам родам з Брэсцкай вобласці, народжаны ў трохкутніку Брэст-Літоўск—Камянец-Літоўск—Высока-Літоўск, як яны раней называліся. Вось сёння мы з вамі, Міра, размаўляем па гэты бок пушчы, а я нарадзіўся вось з другога. Выхоўваўся, чуючы ад дарослых, што ёсць такі горад Беласток, і не так далёка, што некалі з Беластокам, Драгічынам, Бельскам, Белавежай, белавежскімі вёскамі ў нас былі эканамічныя, гаспадарчыя, этнаграфічныя сувязі. Гэта фактычна край адной айкумены. І калі я прачытаў „белавежскае" слова, павеяла нечым родным, і здавалася мне, што я гэты край бачу і адчуваю. Было мне прыемна, што там так хораша азваліся людзі. З той пары я пачаў сачыць, праўда, не так каб пільна, таму што наша БССР не вельмі была арыентавана на Беласточчыну. У нас быў свой нейкі артадаксальна-сацыялістычны шлях, усё было пад нейкім прымусам... Мы аддаліліся. Нам тады здавалася, што мы абагналі Беласточчыну ў бок прагрэсу, а цяпер, аказваецца, засталіся ззаду. Такія дзівы здараюцца ў развіцці грамадства і чалавечай свядомасці. Трэба гэта ведаць: такое адчуванне лагічнасці, адчуванне прысутнасці нечага непазнавальнага, чаго не вылічыш, не вымяраеш нейкімі метрамі ці гадзінамі ёсць у „белавежскай" літаратуры.

З таго часу я пазнаёміўся асабіста з Алесем Барскім, перш за ўсё як з навукоўцам — фалькларыстам, літаратуразнаўцам. Я і вершы яго пачытаў. Вершы, вядома, дзівілі такой, я б сказаў, нейкай нязмушанасцю формы. Мы прывыклі да строгай строфікі, да ўсяго, што звязана з традыцыйнай паэтыкай, а тут усё было інакш. Я тады напісаў кароценькія рэцэнзіі пра кнігі А. Барскага і Віктара Шведа...

Цікавасць была да „белавежскай" літаратуры, але яна яшчэ не падтрымлівалася пастаяннай увагай, каб пра гэта сур'ёзна пісаць, сачыць за развіццём. Не было яшчэ шчыльных кантактаў. Але „белавежскае" прыгожае слова заўсёды прысутнічала ў маёй свядомасці. Я ведаў, што **там ёсць** літаратура, разумныя, здольныя людзі. „Белавежцы" больш гарнуліся да нас, да Менска, чым мы, на жаль, да іх...

Вось так завязалася наша знаёмства. Пашырылася. І я думаю, што гэтыя кантакты трэба працягваць, маю на ўвазе буйнамаштабныя кантакты Рэспублікі Беларусь і яе літаратуры і мастацтва з Беластоцкім Краем. Беласточчына настоена на водары зямлі, пушчы, тут жывуць надзвычай працавітыя людзі, людзі часам нялёгкага лёсу. І, дарэчы, „Белавежа" вельмі адчувае пульс сваё зямлі разам з тым яе каларытам, лёс людзей, і пра гэта можна прачытаць і ў кнігах, якія якраз не страцілі той нейкі такі „імшарны" рамантызм, які часам пераходзіць у мадэрнізм (што вітаю, таму што лічу: пострамантызм і мадэрнізм гэта прыклад на адно і тое ж). І так выходзіць, што тут мы можам задаволіць сваю духоўную, эстэтычную смагу, і многаму можам навучыцца. Нашы менскія задавакі, якія завучылі афіцыёз, запалітызаванасць, заідэалагізаванасць, публіцыстычнасць могуць многаму ў „белавежцаў" навучыцца.

Я ведаю, што кантакты нашы будуць умацоўвацца, а іх нельга называць такім сухім афіцыйным словам. Тут вельмі роднасныя сувязі, з усімі добрымі наступствамі, вынікаючымі з гэтага паняцця роднаснасці.

На семінары „Белавежы" ў Цехановцы натхніла нас вельмі добрая думка скласці і выдаць у Менску ў прыгожым паліграфічным выкананні багатую анталогію „белавежскай" літаратуры. Я ўяўляю бы нават такое выданне больш шырокім — гэта быў бы праз літаратуру аповяд пра Беластоцкі Край, пра яго непаўторных людзей, краявіды, гісторыю, лёс, шматпакутны як і ва ўсіх беларусаў, так і палякаў. Каб людзі ведалі. Гэта важна сёння і з пункту гледжання проста інфармацыі, якой у нас мала, і з пункту гледжання таго, што мы павінны **глядзець, бачыць** беластоцкую пушчанскую кветку, якая прыгожа цвіце і пахне незвычайным водарам. Тут не будуць лішнімі самыя прыгожыя, самыя багатыя эпітэты і словы! І я рады, што гэту думку падтрымалі літаратары „Белавежы" і што Міра згадзілася канкрэтна ўзяць абавязкі з беластоцкага боку па складанню самых разнастайных матэрыялаў. Не абыдземся толькі вершамі ці апавяданнямі, давядзецца звярнуцца за дапамогай у фотаархівы, каб выкарыстаць найлепшыя здымкі, пацешыць імі душу, скажам, мянчаніна, берасцейца, магілёўца... У такой кнізе ёсць патрэба, і калі зрабіць яе нераўнадушнымі рукамі, можа нешта вельмі цікавае атрымацца. Ёсць з чаго яе рабіць! Павінны нас падтрымаць усе, ад каго залежыць лёс гэтага выдання. Думаю, што трэба будзе ўключыць у кнігу творы таксама непрафесіяналаў, якія далі аднак нейкі ўзнос у развіццё літаратуры ў гэтым краі, і пра якіх не маем права забыць.

„Белавежская" літаратура гэта не „засушаная" літаратура. Яна з аднаго боку з'яўляецца высокаінтэлектуальнай, уздымаецца да еўрапейскага ўзроўню, утрымлівае ў сабе праблематыку экзістэнцыяльнага існавання чалавека, з другога — яна не страціла пластыку, не страціла водар зямлі, сувязі з дэмакратычным, неэлітарным чытачом. Гэта літаратура-працаўніца, літаратура беларускай традыцыі, у якой вытокі вельмі глыбокія ў даўніх пластах беларускай духоўнай спадчыны, і ўсё гэта разам выклікае павагу да кніг „белавежцаў". І таму я яе асабіста чакаю. Яна — літаратура свабодная. Сястра свабоды. Свабода гэта таксама выпрабаванне. І для чалавека, і для літаратуры.

Запісала МІРА ЛУКША

# ПАЭТ ЗАЧАРАВАННЯЎ

12 чэрвеня ў сядзібе Настаўніцкага літаратурнага клуба ў Беластоку мела месца незвычайная сустрэча — госцем настаўнікаў быў беларускі паэт Віктар Швед. Побач польскіх вершаў паплылі пявуча-беларускія. Беласточчына, будучы зямлёй пагранічча, з'яўляецца адначасова маткай так пісьменнікаў польскіх, як і беларускіх. Часта яны ўзрастаюць побач сябе, кормленыя гэтай жа самай тугой, падобнымі марамі і гарбамі жыцця. Прыгажосць і праца гэтыя ж самыя і неба над імі гэтае ж самае. Розныя толькі іх мовы, хоць часта ў сваёй творчасці з'яўляюцца яны двухмоўнымі, так як пан Віктар.

Віктар Швед — дзіця Беластоцкай зямлі, вядомы беларускі паэт — паспытаў усяго гэтага, чым можа абдарыць гэтая ж зямля ўражлівага чалавека.

У сваіх літаратурных дасягненнях мае ён дагэтуль шэсць паэтычных зборнікаў. На вялікую частку яго творчасці складаюцца творы для дзяцей. Яны ж расслаўляюць яго імя ўжо ў школьных партах, дзе вывучаюць іх беларускія дзеткі па падручніках. Можна таксама іх пачуць у беларускіх радыёперадачах Польскага радыё. Меладычнасць вершаў, а пэўна і іх змест прычыняюцца да таго, што многія з іх з'яўляюцца ўжо песнямі.

Віктар Швед піша таксама для дарослых чытачоў. Значная частка яго творчай працы гэта пераклады. Перакладае ён польскую паэзію на беларускую мову, а таксама беларускую на польскую мову, у тым ліку і ўласныя вершы. Перакладае ён і з рускай, і з украінскай моў. З некаторымі сваімі перакладамі пазнаёміў ён слухачоў на сустрэчы.

Вершы Віктара Шведа гэта ўпісаная ў строфы любоў да месца і часу, якія ўдалося яму наведаць і сузіраць. Гэта пастава чалавека, які быццам птушка ляціць у свет і заўсёды вяртаецца памяццю і вершам у гняздо, з якога вылецеў. Прыгожа адлюстроўваюць гэта хаця б вершы са зборніка „Вясёлка", якія расказваюць аб беларускай вёсцы (ужо адыходзячай у нябыт у даўнім выглядзе), старой матулі, якая варыць бульбу на вячэру, вярбе, што змагаецца з часам, карове, якая быццам паравоз пад семафарам ночы дае сігнал ад'езду ў сон.

Я не ведаю беларускай мовы, аднак вершаў слухала з энтузіязмам, як чагосьці сардэчнага, мілагучнага і адначасова супакойлівага. Можна быць імі ачараваным, неабавязкова ведаючы словы, самім іх гучаннем і пявучасцю. Вершы ў перакладзе на польскую мову змяшчаюць у сабе ўсё гэта, аб чым я ўжо вышэй сказала, здаюцца спраўнымі і цікавымі. Таксама і гэтыя „дарослыя" творы, як хаця б тыя, што ўзніклі ў Маскве, навеяны тугою па айчыннам краю, а ў іх ліку імпрэсія аб памідорах.

Удзельнікі гэтага літаратурнага здарэння выказваліся, што людзі, якія жывуць па-суседску, мусяць пазнацца. Гэта, па-першае, эліміную ўсялякія прадузятасці, а па-другое, узбагачае нас здабыткамі нашых іншамоўных братоў і сясцёр, часта з гэтых жа самых дарог і хмар над галовамі. Варта тады гэтага роду сустрэчы працягваць. Пану Віктару хочацца пажадаць яшчэ многіх так уражлівых на слова і яго прыгажосць вершаў, як калыханка, прысвечаная дачушцы Натальцы. Колькі ж у ёй разнавіднасцяў, быццам жамчужын, назваў яе імені, колькі ж у ёй зачараванняў.

ЮЗЭФА ДРАЗДОЎСКАЯ

Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў

# ЗАЛАТЫ СКАРБ ТРОІ

*(паводле „L'Express" і энцыклапедыяў мастацтва)*

Хачу паказаць, як кожная краіна зайздросна ахоўвае прыдбаныя сабе гісторыка-культурныя каштоўнасці і якія эмоцыі на дзяржаўным узроўні могуць узнікнуць вакол вяртання археалагічных скарбаў. Хаця не без граху ў гэтым пытанні шэраг краін свету, валодаю канкрэтнай інфармацыяй, што ў прыватнасці Расея не схільная вяртаць былым савецкім рэспублікам каштоўнасці іхніх нацыянальных культур, якія пераважна нячыстымі шляхамі апынуліся ў Цэнтры. Масква не раз прадэманстравала, лагодна кажучы, зняважлівае стаўленне гэтак да Беларусі, як і да іншых рэспублік, у шматлікіх пытаннях. Ёсць, аднак, доказы, што і ў выпадку цалкам не „блізкага замежжа" Расея таксама паступае падобна...

Улетку мінулага года, у час свайго візіту ў Грэцыю, Барыс Ельцын неспадзявана выявіў тайну, якая наэлектрызавала ўвесь свет культуры: „Маем у сябе скарб з Троі. Можа, пакажам яго ў Афінах? Што вы на гэта?" Інфармацыю пацвердзіў міністр культуры Яўген Сідараў, адзначыўшы аднак, што скарб павінен быць спярша паказаны ў Маскве, але не раней як праз два гады. „Не раней як праз 10 гадоў, — папраўіла свайго шэфа загадчыца Музея імя Пушкіна, дзе перахоўваецца неацэнныя каштоўнасці, Ірына Антонава. — Перш за ўсё мусім правесці інвентарызацыю, але не патрабуем у гэтым нічыёй дапамогі". Тым часам Нямеччына і Турцыя (на якой тэрыторыі ляжыць Троя) запатрабавалі вярнуць ім 8750 штук залатых прадметаў вартых некалькі мільярдаў долараў, бо на такую прыблізна суму ацэнены быў археалагічны скарб з легендарнай Троі.

Скарб знайшоў у 1873 годзе Генрых Шліман, якога біяграфія магла б паслужыць асновай для прыгодніцкага рамана. Сын пастара з Меклембургіі, пачаў сваю кар'еру ў вялікім магазіне ў Амстэрдаме. У гэтым міжнародным порце хутка вывучыў ангельскую, французскую і расейскую мовы. У 1846 годзе апынуўся ў Сакнт-Пецярбургу, дзе пачаў працаваць на сваю руку і падчас Крымскай вайны экіпіраваў царскую армію. У часе грамадзянскай вайны ў Амерыцы зарабіў мільёны на гандлі бавоўнай. У 1863 годзе, сабраўшы капітал, вырашыў заняцца галоўнай марай свайго жыцця — археалогіяй. У гэты час ведаў ужо чарговыя мовы: шведскую, польскую, арабскую і грэчаскую. Геніяльная інтуіцыя, з якою расшыфроўваў і аналізаваў старажытную паэму Гамера „Іліяду", дазволіла яму адкрыць чатыры грэчаскія гарады і 9 пасяленняў з розных эпох, якія напластаваліся на сябе ў турэцкай мясцовасці Гісарлык, дзе знаходзілася старажытная Троя.

Шліман быў упэўнены, што адкапаў скарб караля Прыяма з часоў Траянскай вайны ў XIII стагоддзі да нашай эры. На самой справе, скарб паходзіў з III стагоддзя да нашай эры, што ні ў чым не паменшвае яго вартасць. Вазы, келіхі, дыядэмы, засцежкі і цяжкія ланцужкі былі выкананы з чыстага золата. Да сёння захаваўся здымак прыгожай грачанкі Софіі Энгастраменас, жонкі Шлімана ў старажытных, траянскіх ювелірных упрыгожаннях. Археолаг накіраваўся ў Афіны, дзе паказаў частку знойдзенага скарбу спецыялістам. Сенсацыя, якую выклікалі траянскія скарбы, падняла на ногі турэцкія ўлады. У сваіх успамінах Шліман пісаў, што „асманская ілжывасць" была ў сто разоў горшая за голад, спякоту, неспадзяванае апаўзанне скалаў, укусы вужоў, на якія ўвесь час быў ён выстаўлены. Спецыяльным урадавым дэкрэтам Турцыя забараніла яму пакінуць Турцыю са знойдзеным скарбам. Шліман усё-такі выехаў. За вялізную суму 50 тысяч франкаў золатам ён выкупіўся з рук турэцкіх уладаў, вывез скарб з Троі і затым ахвяраваў яго Археалагічнаму музею ў Берліне.

*(працяг будзе)*

а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК

 

# КРЫНАЧКА

Працяг са стар. 1

двух манахаў з Супрасльскага манастыра. Многія царкоўнікі збіралі грошы на пабудовы цэркваў у Беластоку, Чорнай-Беластоцкай і Замосці. Амаль усе паломнікі затрымоўваліся каля ахвярных скрыначак. Багаслужба адбывалася пад адкрытым небам. Прастолы былі пастаўлены пры ўваходзе ў царкву. Паломнікі стаялі нават далёка за царквой, бо працавала гукаўзмацняльная апаратура.

Значная колькасць моладзі і дзяцей швэндалася пры „страганах" — ларках з цукеркамі. Таргаваць прыехалі нават суседзі з былога СССР. Сярод прадаўцоў былі таксама тутэйшыя беларусы, якія галасіста захвальвалі свае цукеркі. У іх якраз найбольш было кліентаў. Варта адзначыць, што амаль усе паломнікі

**гаварылі па-беларуску.**

У гэтым святым месцы людзі не карысталіся польскай мовай, хаця пераважалі жыхары Гайнаўкі. Толькі зрэдку амбітныя сялянкі ці гайнаўчанкі шчабяталі да сваіх „пацех" на польскім дыялекце. Можна было пачуць усе дыялекты і гаворкі якія існуюць у наваколлі. Было шмат белавежцаў, паломнікаў з-пад Нараўкі, Кляшчэляў, Бельска, Нарвы ды Гайнаўкі. Жывымі былі ўспаміны аб самаўрадавых выбарах.

— Як ты, Коля, голосаваў у туй своюй Гайновцы?.. — пытаў дзядзька дзядзьку.

— Я то добрэ голосоваў, тулько хто з тым Глемпом выграе, — палітыкавалі мужчыны ў прысутнасці сваіх элегантных жонак.

Сустрэла я таксама нашу карэспандэнтку Аўрору з хлапчукамі і мужам. Знайшліся і сваякі, якія цягнулі ў гасціну. Сёння прыхадское свята ў Дубінах, але святкуюць і ў Гайнаўцы.

**Вада з Крынaчкі**

паводле многіх, мае цудоўныя якасці. Памагае яна ў грудных і вачных хваробах. Амаль усе вяскоўцы перакананы ў тым, што гэтая вада лечыць усе хваробы. У апошні час не раз давялося мне чуць пра тое, што сялянкі лечаць гэтай вадой сваіх сыноў, кавалераў-алкаголікаў. Зараз у Крынaчцы выкапаны калодзеж і побач стаіць посуд у форме мініятурнай каплічкі, з кранамі па баках. У гэты посуд дзядзькі налiваюць з калодзежа ваду вядром, што на ланцугу. І хаця вады цэлая студня, паломнікі традыцыйна ціснуліся і напаўнялі пад кранамі бутэлькі і слоікі. Многія з іх прамываюць вочы, лішаі, балячкі і хворыя месцы. Пасля абмывання людзі пакідаюць ручнікі і белыя платкі на плоце і галлі дрэў. Калодзеж абведзены каплічкай-альтанкай. Там знаходзіцца таксама ікона Божай Маці. На месцы можна купіць свечкі. У гэтым годзе свечкі стаялі навокал каплічкі. Усе аднак паўтаралі, што свечачкі надта мяккія і немагчыма іх паставіць. Калі ідзе хрэсны ход, над Крынaчкай служыцца водаасвяціцельны малебен.

Побач вады многа крыжоў — вялікіх, малых, малюсенькіх. Пастаўлены яны ўдзячнымі паломнікамі, якія выздаравелі, дзякуючы гэтай вадзе.

Варта адзначыць

**яшчэ адзін акцэнт**

Крынaчкі. Калі ідзе хрэсны ход, усе святары прыходзяць да маленькай магілкі. Там пахаваная партызанка Сёма Гляўкова (на магіле не пададзена прозвішча). Памерла яна тут, недалёка царквы ў час апошняй вайны пакутніцкай смерцю. Гітлераўцы мучылі параненую, страшылі, што ўкінуць яе ў багну, што непадалёк, але яна і так не сказала дзе яе атрад. Такі расказ пачула я ад жанчыны з Гайнаўкі, але цётка са Збуча запярэчыла гэтай версіі. Паводле жыхаркі Збуча, Гляўкова была савецкай палітручкай, якая жыла ў Збучы. Па яе прыйшоў муж — партызан з пушчы. І калі яны ішлі ў свой атрад, яе забілі немцы. Таямніцай застаецца тое, што калі саветы забіралі ўсіх сваіх загінуўшых, то пакінулі магілу Гляўковай. Паводле цёткі са Збуча, яна не была камуністкай, толькі змагалася за вольную Беларусь.



*Паломнікі прамываюць вочы, лішаі, балячкі...*

**Сумнае здарэнне**

Калі я гаварыла з паломнікамі — сябрамі з „маіх дзіцячых успамінаў", якія абедалі пад дубамі і чакалі дажджу, а таксама лаялі працаўнікоў пошты за тое, што нельга ў іх дастаць „Ніву", здарылася нешта дзіўнае. Амаль усе ўжо параз'язджаліся ў свае вёскі і гарады. А тут пад царквой плача самотная трохгадовая дзяўчынка. Дзіця было так адчайна перапалоханае і заплаканае, што нельга было ў яго распытацца, з кім яно прыехала. Добрыя кабеты завялі дзяўчынку да святара.

— Ну то ўжэ хтось нарочно покінуў, — паўтаралі цёткі. Людзі пачалі згадваць, што ўжо не раз на такіх фэстах пакідалі непатрэбных дзяцей.

Дзяўчынка не ўмела гаварыць папольску. Размяўляла яна на гаворцы з ваколіц Дубіч-Царкоўных. Прыехала яна на машыне з мамай і бабай. „Але, што тут цяпер рабіць?" — талкавалі кабеты. Знайшліся і паліцыянты, якія ў цывільнай форме назіралі за парадкам. Усё яшчэ трывожна і з надзеяй глядзелі на падыходзячых людзей. А ж тут бяжыць усхваляваная жанчына, праклінаючы свой лёс. Гэта была маці дзяўчынкі. Аказваецца, што жанчына пакінула дзіця з бабкай. Але бабка, кульнуўшы пару чарак, заснула пад кустом. Шкада было слёз перапалоханай насмерць малечы.

Усе, што вярталіся з Крынaчкі толькі і гаварылі пра тую бабку ды вешалі на ёй безліч сабак.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**фота аўтара**

---

# НАШЫ КАРАНІ

## LXVII. НЯМА НІ СЛЕДУ, НІ ЗГАДКІ

Заблудаўскі друкар **Грынь Івановіч** — гэта адзін з тых дзесяткаў, калі не соцень, выдатных нараджэнцаў нашага Падляшша, якія ўсё яшчэ цярпліва чакаюць на ўваскрашэнне іхніх імёнаў і азнаямлене суродзічаў-спадкаемцаў з тымі здзяйсненнямі, што яны ажыццявілі для дабра беларускага народа.

Нічога невядома, якія повязі злучалі друкара Грыня (Рыгора) Івановіча з Грыгорыем Івановічам, які ў гадах 1519—20 перапісаў *Супрасльскі летапіс* і ў канцы яго пакінуў такі вось запіс: *Как заець избегал тенета, як же всякий мистр радуется, свое делцо искончав. Исписан сии летописець в лето 7028, луна 17, индикта 9, октября 6, на память святого Фомы замышлением благоверного и христолюбивого князя Симиона Ивановича Одинцевича его милости на здорове и на щастье и на жизнь вечную, на отпущение грехов. Боже милостивы, их милости даи его милости княгини Екатирине, их милости чадом. Рукоделье многогрешного раба божиего Григория Ивановича, Богу в честь и во славу во векы. Аминь.* Немагчыма дапускаць, што гэтая самая асоба аж праз 45 гадоў стала ў гадах 1565—69 супрацоўнікам І. Фёдарава і П. Мсціслаўца, бо ў тым часе гэтаму чалавеку было б сама меней гадоў пад 70, а чакала яго яшчэ вельмі актыўная друкарская дзейнасць ды навука ў Львове, Астрогу, Вільні. Хутчэй за ўсё Грынь Івановіч — гэта сын або пляменнік ці нават унук перапісчыка летапісу Грыгорыя Івановіча. Найважнейшае ж тут адзначыць тое, што ў тыя часы на Падляшшы не былі рэдкасцю цэлыя роды з некалькімі пакаленнямі грунтоўна адукаваных людзей, як напрыклад, род тых жа Івановічаў, несумненна — беларускіх баяраў.

Напэўна Грынь Івановіч валодаў не малой адукацыяй, калі даволі шматлікі гурток інтэлектуалаў-бібліяфілаў, якія гуртаваліся пры гетмане Рыгору Аляксандравічу Хадкевічу і пасадзейнічалі заснаванню ў Заблудаве друкарні, адобрылі яго асобу ў супрацоўнікі І. Фёдараву і П. Мсціслаўцу. Здабыў ён прызнанне таксама сваімі здольнасцямі ў выяўленчым мастацтве, працавітасцю і саліднасцю. Мабыць, таленавітым маладым чалавекам заняўся перш за ўсё выдатны майстар-графік П. Мсціславец. *Першай самастойнай гравюрай Грыня Івановіча быў, відаць,* — мяркуе беларускі мастацтвазнавец В. Шматаў, — *другі варыянт герба Хадкевіча з „Псалтыра" (1570), дзе адчуваецца рука вучня. Уласцівая гербу Хадкевіча жывапіснасць, месцамі танальнасць яшчэ больш выяўляецца ў дрэварыце „Цар Давід". Відавочна, яго таксама зрабіў Грынь, бо гравюры з выявай чалавека цяжка прыходзіліся Івану Фёдараву".* І той жа вучоны заўважае, *што „Гравюра („Цар Давід" — М. Г.) падабалася сучаснікам... яе неаднойчы капіравалі ў Вільні ў друкарні Мамонічаў („Псалтыр" 1586, 1591—92 і 1595 г.г.), а арыгінальную дошку (з выявай „Цара Давіда" — М. Г.) Фёдараў пераўёз з Заблудава ў Львоў, дзе яна неаднойчы друкавалася...*

Пасля пераезду на пераломе 1572—73 гадоў у Львоў друкары выдалі там *Апостал* і *Азбуку* з гравюрамі Грыня. Мастак усё ж адчуваў патрэбу дасканалення сваіх уменняў і, відаць, па яго жаданню Фёдараў на свой кошт накіраваў Івановіча да майстра Лаўрэнція Філіповіча для паглыблення яго майстэрства ў жывапісе, разьбе па дрэву, выразанню са сталі літар, сталярнай справе і ў іншых рамёствах. Здабытыя ўменні павысілі прафесіянальны ўзровень мастака. Гэта выявілася ў выданнях друкарні І. Фёдарава і Г. Івановіча, якую яны заснавалі па зычанню князя Васіля (Канстанціна) Астрожскага ў яго родавай сядзібе ў Астрозе на Валыні, спачатку ў гравюрах і шрыфце *Новага Запавету* (1580), а затым у славутай *Астрожскай Біблії* (1581—82). Гэта заблудавянін Грынь Івановіч нарыхтаваў той незвычайнай красы шрыфт, які стаў слаўны на ўсім свеце як *біблійны астрожскі шрыфт* і які стаў узорам наступным пакаленням друкароў Усходу і Захаду. Не меней слаўныя і графікі гэтага ж мастака, што здобяць выданне.

Захопленыя незвычайным майстэрствам Г. Івановіча ў выданні *Астрожскай Біблії* віленскія заможныя купцы і апекуны праваслаўя Мамонічы і Зарэцкія запрасілі яго, каб ён нарыхтаваў шрыфт, гравюры і запусціў у рух іхнюю друкарню, якая пасля адыходу ў 1576 г. П. Мсціслаўца бяздзейна стаяла без абсталявання. Г. Івановіч прыбыў на пачатку 1582 г. у Вільню, за год нарыхтаваў гарнітуры новых шрыфтоў і аздобаў, прывучыў людзей друкарскай справе і ў пачатку 1583 г. вярнуўся ў Львоў, дзе ўжо, пакінуўшы Астрог, жыў І. Фёдараў. Шрыфтам, нарыхтаваным Г. Івановічам, у Вільні былі выдадзены *Зборнік павучэнняў* (1585), *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага* (1586) і адзін з першых у Еўропе сістэматызаваны збор законаў па ўсіх галінах тагачаснага права, як гаворыцца ў энцыклапедыях, славуты *Статут Вялікага княства Літоўскага* (1588), гэта значыць — Старабеларускай дзяржавы. Шрыфт гэтых выданняў вылучаецца арыгінальнасцю — ён падобны на ручны выразны курсіўны почырк. Яго выкарыстоўвалі таксама ў пазнейшых выданнях гэтай друкарні.




ОБЫВАТЕЛЕМЪ ВЕЛИКОГО
КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО.
НА СОЙМЕ ВАРШАВСКОМЪ
даный. року, а ф п а.



ВЪ ВИЛНИ
Въ друкарни Мамоничовъ. року, а ф п s.

*Тытульны ліст "Трыбунала Вялікага княства Літоўскага" (Вільня, 1586).*

У Львове Г. Івановіч разам з І. Фёдаравым рыхтаваліся заснаваць новую друкарню. Але ў 1583 г. І. Фёдараў нечакана памёр, а пра Г. Івановіча з таго часу губляюцца весткі. Праўдападобна, таленавіты заблудавянін вярнуўся ў адну з друкарань, дзе ён раней працаваў, — у Астрог або Вільню. Аднак у якую — невядома, бо і з аднае, і з другое доўгі час выходзілі кнігі, надрукаваныя шрыфтам і аздобленыя графікамі з несумненнымі прыкметамі мастацкага стылю Грыня Івановіча.

Да сённяшняга дня застаецца таямніцай дата смерці і месца вечнага спачынку нашага знакамітага земляка. Асабліва балюча тое, што амаль увесь культурны свет ведае пра яго, але ён застаецца цалкам невядомы ў сваёй роднай мясцовасці — Заблудаве. Ні самага сціплага помніка яму, ні нават назвы вуліцы яго імя вы там не ўбачыце.

**МІКОЛА ГАЙДУК**



 

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XIV

У вершы „Навошта я пішу", створаным у 1948 годзе, Уладзімір Клішэвіч абвінавацiў Захад у абыякавасці да мастацкага літаратурнага слова. Тэзе, выкладзенай у гэтым вершы, паэт запярэчыў у творы „З табою мы заўсёды неразлучна", які ўзнік у Каліфорніі ў 1954 годзе. Зрэшты, акрэсленне „запярэчыў", быць можа, не выясняе істоты погляду паэта на творчасць. У новым вершы ён даказвае, што, нягледзячы на ўсе няўдачы і жыццёвыя крахі, паэзія акрыляе чалавечую душу і дазваляе чалавеку жыць і захаваць сваю чалавечнасць. Паводле Уладзіміра Клішэвіча, паэтычная творчасць з'яўляецца формай духовай перамогі над тым усім, што ў жыцці адмоўнае і дрэннае. Такім чынам, аўтар прыпісвае творчаму працэсу як бы цудадзейныя, магічныя ўласцівасці і магчымасці. Паэту настаўлены верш гэта не толькі праява духоўнай мастацкай самарэалізацыі, але і форма панавання над эгаістычным светам, які імкнецца да зняволення чалавечай індывідуальнасці.

Характарызаваны верш мае, несумненна, характар лірычнай дэкларацыі, але пры гэтым з'яўляецца свайго роду магічным заклінаннем — замовай, у выніку якой нежаданае становіцца рэчаісным, а падпарадкаванасць пераўтвараецца ў незалежнасць.

Вось гэты верш:

*З табою мы заўсёды неразлучна*
*шагаем у бяздоннай ночы.*
*Сугучна мы ідзем ці не сугучна,*
*а ўсё ж мы йдзем, а ўсё ж мы крочым.*

*Вялікі шлях прайшлі цярнёвы,*
*і падалі, і падніміліся нанова,*
*то горда йшлі, узняўшы ўверх галовы,*
*то ціха крочылі — без слова.*

*І ты, мой верш, мой верны дружа,*
*ты быў адзінай мне апорай —*
*ці я згінаўся перад сцюжай,*
*ці быў засмучаны ад гора.*

*У тварэнні вольнасці вялікай*
*прыходжу толькі да спакою:*
*тады я цар, тады ўладыка*
*зямля — нішто перада мною.*

Магло б здавацца, што прыпісванне аўтарам верша магічнай і місіянерскай ролі паэзіі значна перабольшанае і гіпербалічнае. Аднак ацэньваючы гэты верш трэба мець на ўвазе сітуацыю паэта сілаю адарванага ад роднага краю. Паэта, які адчуваў сябе адзінокім і пакрыўджаным. Паэта, які ў вершы знаходзіў тую незвычайную сілу, што стварала ілюзію незалежнасці і падпарадкавання сабе свету.

Зразумела, што маем тут дачыненне да хвіліннай пермогі, у істоце ўяўнай; да таго трыумфалізму, які паяўляецца разам з напісаным вершам, але хутка прамінае, калі толькі астыне атмасфера ўзнёсласці і творчага гарэння.

І ўсё ж такі характарызаваны верш мае яшчэ адзін вельмі важны аспект. З'яўляецца ён сведчаннем таго, наколькі важным было вершаванае роднае слова для чалавека, які прыгаворам гістарычнага лёсу быў закінуты ў далёкую чужыну. Чужына гэта мела, зрэшты, адну спецыфічную рысу. У адрозненне ад большасці выгнаннікаў, якія трапіўшы ў чужы край акунаюцца ў бяду і нястачу, беларуская эміграцыя ў Амерыцы ў параўнаўча кароткі перыяд стварыла сабе адносны матэрыяльны дабрабыт і пачала жыць лепш, чым у родным краі.

Нягледзячы на гэта, сум па радзіме не толькі не зменшваўся, але ўзрастаў. Вершы большасці беларускіх пісьменнікаў, у тым і Уладзіміра Клішэвіча, з'яўляюцца сведчаннем таго, што чым даўжэйшы быў іх перыяд прабывання ў Амерыцы, тым любоў да Айчыны і настальгія па ёй былі большыя.

У плеядзе беларускіх эміграцыйных пісьменнікаў Уладзімір Клішэвіч заняў пазіцыю выключную. Нягледзячы на тое, што быў у канцы трыццатых гадоў сталінскім вязнем і лагернікам, што быў адарваны ад Айчыны, заглыблены ў амерыканскі дабрабыт, пачуў у сабе непераможнае жаданне прыехаць у Беларусь.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




**Дарагія сябры!**

Высылаю Вам нашае пісьмо ў абарону Анны Сабэцкай, якую беспардонна выкінулі з працы на „Радыё Гданьск". Прычыны звальнення пакуль нам не вядомы.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

* * *

Gdańsk, dnia 11 czerwca 1994 r.

**Prezes Zarządu Radia Gdańsk**
**Andrzej Trojanowski**

**dotyczy: zwolnienia z pracy redaktor Anny Sobeckiej**

Środowisko Białorusinów i wyznawców prawosławia zamieszkujących na Wybrzeżu Gdańskim zostało zaskoczone decyzją Prezesa Radia Gdańsk o zwolnieniu z pracy redaktor Anny Sobeckiej.

Jako Białorusini od dawna mieliśmy kontakty z panią redaktor. Jeszcze na początku lat osiemdziesiątych z własnej inicjatywy zainteresowała się także kulturą białoruską i organizowanymi przez nas imprezami. Na antenie radiowej — regionalnej oraz ogólnopolskiej prezentowała w fachowy i obiektywny sposób dorobek kultury białoruskiej w Polsce, w tym na Wybrzeżu. Poza tym przybliżała radiosłuchaczom problematykę prawosławia, wskazując na obecność wyznawców tej religii w regionie gdańskim.

Przygotowywane przez red. Annę Sobecką audycje radiowe wyprzedzały wszystkie inne mass media w prezentowaniu narodowościowo-wyznaniowych problemów, zarówno w aspekcie współczesnym jak i historycznym. Jej autorstwa były programy o literaturze białoruskiej w Polsce i o historii Białorusi. Przeprowadzała wywiady z twórcami i działaczami białoruskimi, m. in. z Janem Czykwinem, Sokratem Janowiczem, Aleksandrem Barszczewskim, Wasylem Bykowem, Alesiem Adamowiczem, Jankiem Brylem, Danutą Biczel-Zahnietawą, Maksymem Tankiem, Zenonem Paźniakiem (liderem opozycji na Białorusi). Będąc członkiem Międzynarodowej Asocjacji Białorutenistów przygotowała cykl audycji poświęconych problemom odrodzenia, niepodległości Białorusi oraz białoruskiej diaspory. Ostatnio red. Anna Sobecka prezentowała na Wybrzeżu nowe książki Sokrata Janowicza oraz programem o Białorusinach zamierzała rozpocząć cykl o mniejszościach narodowych.

Jeszcze przed odzyskaniem niepodległości przez Republikę Białoruś na polskiej antenie radiowej prezentowała bogaty dorobek kulturalny Białorusi, jej odrębność historyczną i prawo do samodzielnego bytu państwowego.

Z całą odpowiedzialnością stwierdzamy, że szlachetna postawa red. Anny Sobeckiej służyła tolerancji i pojednaniu oraz wzbogacaniu kultury w jej różnorodności. Tym bardziej niezrozumiałe staje się zwolnienie z pracy tak szlachetnego i tolerancyjnego człowieka.

*(98 подпісаў гданьскіх беларусаў і ўкраінцаў)*

# ГАРАДОЦКАЯ ДАЎНІНА

Назва мясцовасці Гарадок зафіксвана ўжо ў канцы XV стагоддзя. У межах сённяшняй вёскі ў раннегістарычны час знаходзілася абарончае гарадзішча, ад якога паходзіць сённяшняя назва. У 1558 годзе Гарадок быў ужо мястэчкам.

У 1878 годзе ў Гарадку пражывала 1793 чалавекі. У тым жа годзе ў гарадоцкай парафіі адбылося 167 хрэсьбінаў, 23 шлюбы і 149 пахаванняў. Драўляную царкву пабудавалі ў 1789 годзе і званіцу ў 1858 годзе.

У 1890 годзе ў мястэчку было чатырнаццаць механічных ткацкіх цэхаў, у якіх працавала 265 асоб. У 1905-1910 гадах у 22 фабрыках працавала 576 рабочых. У 1905 годзе Гарадок налічаў 3535 жыхароў.

Першую царкоўную школу ў Гарадку адкрылі ў 1863 годзе і вучылася ў ёй 40 дзяцей. У 1879 годзе вучняў было тры разы больш. У 1884 годзе ў Валілах, Мелашках і Пяньках ды ў 1887 годзе ў Каралёвым Мосце дзейнічалі школы граматы. Школы існавалі таксама ў Белявічах, Дзернякове, Залуках і Случанцы. У іх вучылася 172 юнакі і 25 дзяўчат.

У 1936 годзе Гарадок меў 2000 жыхароў. У тым жа годзе адбылося 219 хрэсьбінаў, 59 шлюбаў і 81 пахаванне. У 1943 годзе згарэла царква. Пабудову новай пачалі ў 1946 і закончылі ў 1970 годзе. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць у ёй вітражы і фрэскі.

У 1970 годзе ў Гарадку пражывала 1782 чалавекі, а ўжо ў 1979 годзе — 2144 асобы, у тым 1155 жанчын і 989 мужчын. У тым жа годзе ахрысцілі 74 дзяцей, пад вянец стала 23 пары маладажонаў і памерлі 32 чалавекі.

**ЯСЕНЬ**

# ТАКІ ПРЭЗІДЭНТ, ЯКІ НАРОД

Працяг са стар. 4

* * *

У выбарчым участку ў Сярэдняй школе н-р 18 горада Менска некалькі мінут пасля сёмай ужо рух вялікі. Перад тым, як паехаць на правінцыю, мой шафёр і праваднік Андрэй хоча прагаласаваць, усё ж голас за свайго больш будзе. Маю ўвагу прыцягвае надпіс „Буфет". Па прыстойных цэнах каўбасы, мяса, гароднiна, печыва, салодкае, напіткі, з півам уключна. Гэтак ва ўсіх участках, толькі да вечара паменшае тавараў.

Едзем у Салігорск, вядомы мне з чытанкі ў падручніку па рускай мове для ліцэяў „В Солигорске цветут каштаны", ці неяк так. Горад малады, бо толькі з 1958 года — адна з узорных пабудоў камунізму. Наздзіў акуратны, вуліцы, як у Амерыцы, перасякаюцца пад прамым вуглом. Дамы невялікія, у большасці 5-павярховыя, многа зелені (дрэвы за 35 гадоў паспелі вырасці). Побач штучнае возера „Салігорскае мора". Чыстае, Андрэй кажа, што ў ім водзяцца ракі. Здалёк то чырванеюць і мігцяць на сонцы, то чарнеюць пагрозліва, калі хмарыцца, велічэзныя горы. Гэта адпадкі з тутэйшых шахтаў солі, у 90% таксама салоны. Снег на іх не ляжыць ніколі.

У выбарчых камісіях інфармуюць нас, што да 11-ай гадзіны ў горадзе прагаласавалі 32% выбаршчыкаў, а па раёне — 45,8%. Старшыні камісіі дакладна правяраюць нашы дакументы, але прымаюць ветліва, даюць усе патрэбныя паясненні. Так будзе ўвесь дзень. Пытаемся пра парушэнні выбарчага закона, пра скаргі ад выбаршчыкаў. Прынцыповых, пакуль што, не было. Гудок тэлефона адзываецца найчасцей тады, калі выбаршчык забыў, у якім участку яму галасаваць.

Мы наведваем участак н-р 13, у Палацы культуры Вытворчага аб'яднання Беларуськалій. Сустракаем там назіральнікаў ад БНФ і Таварыства беларускай мовы. Трэці, ад Партыі камуністаў Беларусі дзесьці якраз выйшаў. У гэтым палацы — пры поўнай зале на 1 100 асоб — праходзілі сустрэчы з Дубко, Лукашэнкам, Пазьняком. З таго часу ў горадзе найбольш гаворыцца пра Лукашэнку і Пазьняка.

У Салігорску актыўны Незалежны прафсаюз гарнякоў, які палітычную свядомасць набываў яшчэ ў час агульнасаюзных забастовак шахцёраў. Нядаўна далучыліся да яго працаўніцы швейшай фабрыкі. Прафсаюз абсадзіў сваімі назіральнікамі ўсе ўчасткі ў горадзе і большасць у раёне. Падтрымлівае Пазьняка.

* * *

А гадзіне 15-ай аб'яўляюць, што ў цэлай краіне прагаласавала 63% выбаршчыкаў. Гэта значыць — выбары ўжо адбыліся. У Чапялях Салігорскага раёна ў гэты час прагаласавала звыш 70%, а ў суседняй вёсцы Прусы да поўдня на 270 асоб у выбарчы ўчастак не прыйшлі толькі дзве.

Едзем у Слуцк. На працягу гадзіны надвор'е мяняецца тры разы — сонца, дождж, бокам праходзіць бура, пакідаючы паламаныя галіны дрэў. Слуцк з 60-тысячамі жыхароў крыху меншы за Салігорск (там роўна 100 тысяч). Гістарычны, без вялікай індустрыі, з драўлянай забудовай шмат якіх вуліц.

Прысутнасць на выбарах у Слуцку таксама вышэй сярэдняй — 66,5% а трэцяй пасля поўдня, а ў раёне — 78%. У раёне папулярнасцю карыстаецца калгаснік Дубко, але і так прайграе з Лукашэнкам. У горадзе гэты другі лідзіруе самотна. „Прыехаў ён да нас якраз на Тройцу, — расказвае працаўніца гарвыканкама, — то людзей сабралася столькі, што каб іх змясціць у горадзе залы не знайшлося. А надвор'е было такое як сёння. Стаяў ён на высокіх сходах перад палацам культуры, пад даждом, вецер развяваў полы плашча, а вакол мора народу і ніхто не расходзіўся. Кожнае слова патанала ў апладысментах".

Адзін з выбарчых участкаў размясціўся ў заводзе хлебных прадуктаў (па-нашаму пякарні). Старшыня камісіі, заадно дырэктар завода — былы партыйны функцыянер. Яшчэ даволі малады, энергічны, на выгляд інтэлігентны. Дапамагае яму інспектар кадраў, старэйшы ўжо палкоўнік з Афганістана. „Нацыяналісты ў нас не пройдуць, — упэўнены ён. — Нас раз'ядналі з братняю Расеяй, пасварыць хочуць, варажнечу між народамі сеюць". На развітанне частуюць цукеркамі. У гэтай камісіі ёсць назіральнік ад БНФ.

Па дарозе ў Менск заязджаем яшчэ ў вёску Шышчыцы. Гадзіна прыблізна 7-ая. Камісія спакойная, гаваркая, прысутнасць на выбарах — звыш 90%. Парушэнні? А якія яны ў нас могуць быць?

* * *

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі на прэс-канферэнцыі заяўляе, што сур'ёзных парушэнняў у час выбараў не было. Пацвярджаюць гэта міжнародныя назіральнікі.

На другі дзень аб'яўляюцца — праўда, толькі прыблізныя, яшчэ не афіцыйныя — вынікі: Лукашэнка — 45%, Кебіч — 17%, Пазьняк — 13%, Шушкевіч — 10%, Дубко — 6%, Новікаў — няцэлых 5% галасоў. Істотна яны не зменіцца.

Прысутнасць на выбарах — 79%

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мілы Астроне! Мы маем прадаваць сваю гаспадарку і дом. Ужо і купец знайшоўся. Канкрэтна справа вырашыцца праз месяц. А тут сняцца мне і мужу такія сны, што і думаць пра іх моташна.

Мужу ўсё сняцца нейкія мерцвякі. Усе яны то з абрэзанай нагой, то акрываўленыя. Лезуць на яго з усіх бакоў, а ён ад іх уцякае.

А і мне таксама прысніўся паскудны сон. Быццам бы леглі мы спаць. Ляжым так, яшчэ не сплю. І бачу я раптам, што на тумбачцы перад маімі вачыма паўзе чарвяк, такі невялікі рабачок. Я ведаю, што муж уставаў і хадзіў у туалет. Ага, ужо ведаю, што гэта яго чарвяк. Завяліся глісты, не давядзі Гасподзь. А рабачок ляжыць так сабе спакойненька на нейкай драўлянай падставачцы і толькі злёгку рухаецца наперад.

Даражэнькі Астроне! Я вельмі баюся будучай трансакцыі.

**Ніна**

Ніна! І я б на тваім месцы баяўся. Падсцерагае вас нейкая небяспека. Пра гэта асабліва інфармуе сон тваёго мужа. Ды і твой сон гаворыць за тое, што будуць нейкія клопаты і непрыемнасці. Будзьце асцярожныя з гэтымі купцамі! Здаецца, яны будуць прабаваць вас ашукаць з карысцю для сябе.

**АСТРОН**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**ГАРЫЗАНТАЛЬНА:** 1. кладоўка, 3. сталіца Малі, 5. сталіца Сірыі, 7. фігура ў картах або шашках, 9. брус, забіты ў грунт, 10. чацвёртая частка, 11. міфічная маці Кастара і Полукса, 12. маці, 14. рака, якая аддзяляе Джорджыю ад Паўднёвай Караліны (ЗША), 16. шлях, 17. вялікая афрыканская пустыня.

**ВЕРТЫКАЛЬНА:** 1.кароткае, тоўстае бервяно, 2. парада, 3. жыхар паўночна-заходняй Іспаніі, 4. дзікая каза, 6. ашуканства, 8. прозвішча іспанскіх паэтаў Антоніа (1875—1939) і Мануэля (1874—1947), 9. шырокаполы капялюш, 11. распаўсюджанае пустазелле, 13. экзамен сталасці, 14. скандынаўская легенда, 15. сталіца Багамскіх астравоў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 21 н-ра:** корч, шкло, эпік, Карп, рака, лыка, іклы, краб, каса, каша, лука, Куба, сказ, шоўк, кіно, Ікар.

**Кніжныя ўзнагароды высылаем Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх і Пятру Байко з Белавежы.**

## ЦАР ГАРОХ

У нашым таямнічым свеце бываюць такія здарэнні, пра якія нават найбольшым фантастам не сніцца ў найбольш неверагодных снах. Раскажу пра адно з іх, якое здарылася даўно таму, калі людзі яшчэ цешыліся тым, чым іх зямелька абдорыць, шанавалі сваю карміліцу і не калечылі яе так, як цяпер, калі вытрасаюць яе нетры, шукаючы то чорнага каменя, то серы вогненнай, то смалы пякельнай.

Аднаго летняга дня Я. Ю., прабудзіўшыся на досвітку і апрануўшы белую рубашку і такія ж штаны, узяў касу і пайшоў на сенажаць. Ці доўга ён касіў, ці коратка, ніхто ўжо гэтага не помніць, калі каса ў нешта ўбілася. Я. Ю. спыніўся і пачаў прыглядацца, шукаючы прычыны гэтай затрымкі. Побач касы стаяла вітка маладзенькай дзікай грушы, але каса яе яшчэ не захапіла, Пачаў ён расхіляць траву і ў той момант нешта лёгка трэснула.

— Ой, — пачуўся нейкі ціхі і сухі голас і ў той момант Я. Ю. заўважыў, што гэта велічэзны струк гароху расхіліў свае вусны, з якіх выглядалі 32 гарошыны. Некаторыя з іх былі светлыя, а ў некаторых былі чорныя дзіркі, выедзеныя чэрвямі. Аднак сядзелі яны роўненька, быццам зубы ў галівудскай кіназоркі. Я. Ю. насцярожана адступіў ад дзіўнай з'явы, але струк ціхім, сухім голасам звярнуўся да яго:

— Не бойся, добры чалавеча, нічога табе з майго боку не пагражае, хаця нанёс ты мне сваёй вострай зброяй балючую рану.

У гэты момант Я. Ю. заўважыў, што вастрыё яго касы ўрэзалася ў сухую цвёрдую сцябліну, на якой знаходзіўся дзіўны струк, а сцябліна гэтая сваім верхам абхапіла маладую дзічку. Пачухаўся ён заклапочана ў патыліцу, а тым часам дзіўны струк, быццам бы набраўшы паветра, прадаўжаў далей:

— Спыніся, добры чалавеча, на хвіліну і будзь добры паслухаць тое, што я табе скажу. Ндоўга мне ўжо глядзець на зялёныя нівы і сіняе неба, зрэшты, наглядзеўся я на іх нямала. Раскажу я табе, калі захочаш выслухаць, мой летапіс, біяграфію магутнага цара, у якой спаткалі мяне проста неймаверныя здарэнні.

— Калі ласка, ваша сіяцельства, — папрасіў Я. Ю. ветліва.

— Старэча я ўжо цяпер, цела маё высахла, сам не магу на нагах утрымацца, хаця ў чарку здаўна ўжо не заглядаю, і карыстаюся дапамогай вось гэтай стройнай маладзіцы, — тут струк кіўнуў у бок дзічкі, — але яна ўжо на мяне мала ўвагі звяртае, толькі вось з бадзёрым вецярком радасна шэпчацца. Але даўным даўно сок бушаваў ува ўсіх маіх капілярах і не толькі найпрыгажэйшыя маладзіцы трацілі розум, убачыўшы мяне, але нават халодныя, здавалася б, вербы і бярозы сарамліва апускалі свае веткі перада мною. І жыў я багата і раскошна і меў я вялікую дзяржаву, у якой стольным горадзе меў сваё цар-крэсла. Ды мала я засядаў у ім; найчасцей гуляў я пад балдахінам з найпрыгажэйшымі ў царстве рабынямі, бо надта ж прыемны, цікавы і паучальны гэта занятак. Уяві сабе, добры чалавеча, аднойчы забаўляўся я з дзвюма вучонымі дзеўкамі: адна з іх схапіла мяне за член і выклікала, што крыніца жыцця пачала напаўняцца. Тады схапіла другая, адпіхнуўшы першую, якая спытала: „Якім правам такі захоп? Напісана ж у кнігах, што хто падыме мёртвую зямельку, таму яна і будзе належыць". Але другая адказала: „У кнігах напісана, што дабыча належыць таму, хто яе зловіць, а не таму, хто яе напалохаў". І так праводзіў я амаль кожны дзень, не ведаючы ніякіх клопатаў, ні турбот. І ў галаву мне не прыходзіла, што можа быць на свеце нехта магутней мяне. А аказаліся імі тыя далікатныя істоты, з якімі я так бестурботна забаўляўся. Колькі яны багацеяў зруйнавалі і колькі галышоў узбагацілі! Усвядоміў я гэта, калі ўжо было запозна. Патрацію я сілы, не звяртаючы ўвагі на справы дзяржавы, у якой тым часам паявіліся маладыя авантурнікі, якія парушылі ідылічную еднасць, узнялі брудную лаянку і навялі агідныя атакі на мяне і маю світу. І абмежавалі маю волю, а потым і зусім прагналі не толькі ад цар-крэсла і балдахіна, але нават са стольнага горада ў чыстае поле.

Тут пачвара спынілася, але ад доўгай тырады гарошыны выкаціліся са струка, быццам пацеркі слёз ад плачу па беспаваротным мінулым. Пусты струк варушыўся яшчэ, быццам бяззубыя сківіцы, але Я. Ю. ўжо не мог зразумець ягоных выказванняў.

— Ваша сіяцельства! — прашаптаў апрануты ў белае Я. Ю. і хацеў адлажыць касу, каб пахіліцца ніжэй, але каса, пацягнуўшы за сабою сцябло, вырвала карэнні з зямлі і адарвала вусы ад дзічкі, ды і сама адчапілася ад яго, пакідаючы на пакосе.

Усяму прыходзіць свой час; нават незвычайным з'явам і здарэнням.

**АДАМ МАНЬЯК**

## КАЛІ НЕ АДПУСКАЮЦЬ, ТО НЕ ІДЗІ!

Мая нябожчыца бабуля заўсёды паўтарала:

— Памятай: ніколі не выходзь з вячорак, калі цябе не пускаюць!

Чаму? А вось якая гісторыя з ёю здарылася!

Сядзелі восенню на вячорках, пралі кудзелю. Позняй ноччу пачалі разыходзіцца. Бабуля і яе сяброўка Вера былі аднымі з першых, якія выбраліся дадому. Усе, хто заставаўся даўжэй, не хацелі іх пусціць. Калі дзяўчаты заўпарціліся, сказалі ім, што не дойдуць дадому, бо настрашаць іх мерцвякі. Маладухі толькі засмяяліся.

Узялі свае калаўроткі пад пахі і пайшлі, расказваючы пра розныя жахі. Калі дайшлі да пуні гаспадара Д., заўважылі, што адтуль выходзіць свіння.

— Пагляндзі, — кажа Вера, — хіба Д. хлеў кепска зачыніў, свіння ім уцячэ!

Дзяўчаты стаялі і ўзіраліся. Жывёла выйшла на дарогу і стала ўпоперак. І пачала расці, як нейкая будыніна!

— Уцякайма, — шапнула Вера.

Бабуля схапіла яе за руку.

— Стой! Тут не жарты! Думаеш, уцячэш ад нячыстай сілы? Молімся! Ойча наш...

Перажагнала бабуля свінню, кончылі малітву.

Свінішча пачало меншаць, адвярнулася і пайшло назад, а за сабой пацягнула невялікую каляску.

**АЎРОРА**

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

У пачакальні аўтобуснага вакзала, як заўсёды ў сераду, народу было шмат. Усе месцы былі занятыя, многа людзей стаяла. Чарга за білетамі то меншала, то выцягвалася.

Увайшла румынка з малюсенькім дзіцём, захутаным у стары плед і дзяўчынкай гадоў пяці-шасці. Маці з малечай сталі пад сцяной, а дачушка пайшла жабраваць. Хто даў ёй грошы, хто не, хто ўціснуў ёй у ручку булку.

— Божа мой, — зашумелі жанчыны, — як жа выглядае тое малое, такая худэча! То ж памерці можа, і холад такі, а яно толькі ў той коўдрачцы.

— Э, не памрэ. Вырасце. Яны здаровыя, пасядаюць проста на вуліцу, нічога нават сабе не падклаўшы. Не прастыне. Паспрабуй ты так сядзь, то пабачыш, — сказаў дзед да свае бабы, — што зараз твой радыкуліт адазвецца.

— Можа і так. Але, вось бяда людзям. Дасюль жабракоў не было. Незадоўга і нашы пойдуць хіба „па просьбе". Работы людзям няма, а якась жыць жа трэба!

— Што, работы няма? Нябось, работа знойдзецца. Толькі ці каму хочацца за яе брацца? Паразвязвалі „калхозы", зямлі — бяры колькі хочаш, хоць пяцьдзесят гектараў! Работы будзеш мець вышэй горла!

— Цікава, як ты яе зробіш без машын?

— А як я рабіў? Таксама ж машын ніякіх не было! А падаткамі лупілі не менш, чым цяпер.

— Тады хоць цэны былі сталыя. Пазыку можна было ўзяць, не баючыся сплатаў. А цяпер хоць ты сядай на чыстым полі! Каб хоць ты меў каня і воз! І штучнае ўгнаенне трэба купіць, бо на пяску ж табе не ўродзіць.

— У каго галава на карку, таму нічога не страшна.

— Глупствы, Сцяпан, кажаш. Глянь на С. Ці не меў ён добрае галавы? Меў такія крамы, і пакупнікоў у яго не бракавала. Усё адно абанкруціўся. Цяпер С. — прыклад не добрага гаспадара, а галоціка.

— То ж у зямлю жывымі не палезем!

**Запісала АЎРОРА**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**РЫБНАЯ ПОЛІЎКА**

Прадукты:

*50—80 дэкаў філеяў або дробнай, ачышчанай рыбы,*
*1—2 цыбуліны,*
*1 пятрушка,*
*зубок часнаку,*
*кавалак апельсінавай скуркі,*
*каля 10 лыжак алею,*
*соль і перац.*

Рыбу парэзаць на невялікія порцыі і разам з пасечанай цыбуляй падсмажыць у глыбокай патэльні на алеі. Заліць вадой (1,5—2 л), дадаць прыправы, перамяшаць. Варыць на даволі вялікім агні каля 15 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пароды

*ВІНЦУК ПУГАЧ*

**Я БЫЎ САМІМ САБОЮ**

*Я сёння быў самім сабою,*
*У твар брыду назваў брыдою.*
*.........................*
*Страляць па зорках з кулямёта,*
*Даволі цяжкая работа.*

*АНДРЭЙ ПЯТКЕВІЧ*

Я ўчора шчэ не быў сабою,
Хадзіў абняўшыся з брыдою,
Суседку не валок у жыта,
Не піў, хаця было наліта,
І нават не псаваў паперу,
На ёй малюючы халеру.
Ды штосьці сталася са мною
І я брыду назваў брыдою.
Страляў па зорках з кулямёта, —
Даволі цяжкая работа.
Ваду з крыніцы чэрпаў сітам,
Спяваў з якімсьці паразітам,
На вогнішчы паліў я грошы —
На іх жа дзядзька нехарошы!
Быў цэлы дзень самім сабою!
А ў ноч абняўшыся з брыдою,
Я оду напісаў брыдоце,
Каб пабыла пры кулямёце
І крыху ў зоркі пастраляла
Пакуль патронаў шчэ нямала.

## СЕНТЭНЦЫІ

Маятнік — гэта лязо,
якое сячэ лінію часу на іскры хвілін.

* * *

Смерць — гэта ачышчальны агонь,
у полымі якога згарае азарт жыцця.

* * *

Прадвесне — гэта птушаня вясны
ў лопаючай шкарлупіне зімы.

**БАРЫС РУСКО**






*Малюнак Л. Разладава*

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Два сябры сустракаюцца на тым свеце:
— Скажы мне, дружа, як табе жывецца ў пекле? — пытаецца адзін.
— Цудоўна! Кампанія выдатная, харчаванне добрае. А што там у цябе, у небе?
— Знаеш, не вельмі. Работы мноства, часам даводзіцца працаваць па 14 і 16 гадзін у суткі...
— Што ты кажаш?! Чаму?
— Людзей не хапае, мой дружа, людзей не хапае...

* * *

— Мая дачка спявае, грае на піяніна, малюе, разбіраецца ў батаніцы, заалогіі, размаўляе па-французску, а ўвогуле то яна адукаваная дзяўчына. А што вы ўмееце?
Будучы зяць:
— Ну, у выпадку пільнай патрэбы я магу гатаваць ці цыраваць шкарпэткі.

Падборку зрабіў
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## ПІШУ ЯК ЖЫВУ

***Так называецца навейшая кніжка Янкі Брыля, якая толькі што выйшла ў менскім выдавецтве „Мастацкая літаратура". У ёй — пражытае і перажытае пісьменнікам разам з людзьмі: і трагедыі, і няшчасці, і беды, і светлыя мары, і радасці, і гумар. На працягу некалькіх тыдняў будзем прапанаваць чытачам акрашаныя гумарам лірычныя мініяцюры, вынятыя з гэтага выдання.***

* * *

Механізатар на пенсіі. Інвалід вайны. Значна старэйшы за свае гады і п'янаваты. На другім годзе ўрадавай пастановы супраць п'янства.

Вяртаемся з санаторыя. І там я неаднойчы бачыў яго пад патаемнай чаркай, з нейкай нягеглай фанабэрыяй вышэйшасці. У нашым купэ яго знайшоў знаёмы з санаторыя, з другога вагона. Пагаварыць яны выйшлі на калідор. Адтуль, цераз прачыненыя дзверы, пачулася, як той знаёмы шаптаў інваліду, хто я. Вярнуўшыся ў купэ адзін, таварыш, крыху памаўчаўшы, спытаўся:
— А вы пісьменнік? Я і не ведаў.
Зноў памаўчаў, а тады, уздыхнуўшы:
— Дурная, браце, работа!
Адкуль ён ведае гэта, я не спытаўся. Аднак бывае, калі прыцісне, і падумаеш: а ці ж не праўда?..

**ЯНКА БРЫЛЬ**

## МАЛАДАЯ КУМА

*Музыка Зміцрака Яўтуховіча*
*Словы Алеся Бадака*




Эх, кума мая, кума-весялуха,
Я з табою забываю пра скруху.
Ты ўсё ўмееш, ты ўсё любіш і знаеш,
За сталом, нібы салоўка, спяваеш.

*Прыпеў:*
Маладая кума, маладая кума,
Кожны дзень па табе уздыхаю дарма.
Кожны дзень па табе уздыхаю дарма, —
Хіба ты не бачыш сама?

Не ўзлюбіў я ўсіх тваіх кавалераў.
Ты смяешся з іх, але я не веру,
Я не веру, што ты іх не палюбіш,
Майго сэрца назаўжды не загубіш!

*Прыпеў.*

Год за годам, год за годам мінае,
Ты такая ж, як раней, маладая.
І цвіцеш, нібыта вішня вясною.
Што ж ты робіш, што ж ты робіш са мною?

*Прыпеў.*

# Прарок

Тадэўш Слабадзянак напісаў, блядзь, п'есу „Прарок Ільля".

Выступаюць тут, блядзь, мужчыны і жанчыны. У мыжчын улюбёнае слова — блядзь, у жанчын — о езу, езу, езу.

Жанчына, нават калі яе, блядзь, трахаюць — крычыць: о езу! Хаця не заўсёды. Вось, калі за справу ўзяўся нейкі, блядзь, каталік, яна, блядзь, маўчала. Каталіку дзірка, блядзь, паказалася вялікая, бы магіла. А ўсе мы, блядзь, ведаем, што аднаму блядзь, за вялікая, другому, блядзь, цесная.

Дзіўны народ, гэтыя, блядзь, беларусы (гэта іх так субтыльна адмаляваў, блядзь, аўтар). Носяць нейкі дзіўны крыж і, блядзь, час ад часу распінаюць, блядзь, нейкага вандроўнага жыда, а калі, блядзь, няма жыда, заступаюць яго, блядзь, саламяная куклай.

Ого, нялёгка напісаць, блядзь, пра суседзяў. Рабілі гэта прыгожа, блядзь, Пушкін і Кручкоўскі, Кабатц і Міцкевіч. Дык што ж, вядома: гэта былі, блядзь, людзі літаратуры. А калі сустрэў іх, блядзь, слабы дзянёк, адкладалі ўбок пяро і ішлі вудзіць рыбу.

І наканец яшчэ, блядзь, загадка: калі замест праваслаўнага прарока Ільі з'явіцца нейкі каталіцкі прарок, паглядзім у TVP такую п'есу ці не?

Вось і ўсё! Howk! (г.зн. па-беларуску — блядзь).

**МІХАСЬ АНДРАСЮК**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Не ўяўляеш сабе, якая разбітая вярнулася я з навукі ў Варшаве. Планы былі зусім іншыя. Меркавалі мы з маім хлопцам ехаць да маіх бацькоў і тут, на Беласточчыне, правесці летнія канікулы. Я вельмі цешылася, што будзем разам. Усё ж такі мы з ім ходзім ужо амаль цэлы год. Прывыкла я да яго, ды і кахаю, што тут гаварыць. Прыгожы і сімпатычны. Праўда, мы яшчэ не гаварылі пра замужжа, але ўжо даўно я аддалася яму.

Заўсёды было так, што мы спатыкаліся ў мяне. Я жыву ў пакойчыку, які мае бацькі нанялі ў даволі прыгожай віле. Гаспадыня не мела нічога супроць таго, што ён наведвае мяне. Хлопец ёй падабаўся, бо быў ён ветлівы і нават часамі дапамагаў ёй нешта адрамантаваць у хаце (мой хлопец вучыцца ў палітэхніцы, на электратэхнічным аддзяленні). Гаспадыня ніколі не заглядала ў мой пакой, не перашкаджала нам, калі мы былі разам. Дык і не было нам патрэбы сустракацца ў іншым месцы. Я была ўпэўнена, што мой хлопец ёсць толькі мой, бо і я была толькі яго. Кахала шчыра і меркавала, што гэта ўзаемна.

Канчаліся заняткі ў школах. Сябра майго хлопца, з якім ён жыў у адным пакоі інтэрната, ужо паехаў дахаты, здаўшы ўсе экзамены. Мой хлопец застаўся ў пакоі адзін, меў яшчэ паўторна здаваць адзін экзамен. Наведваў мяне ў гэтых днях рэдка, бо трэба было рыхтавацца да экзамену. Аднойчы я вельмі засумавала па ім і вырашыла паехаць да яго ў інтэрнат. Было даволі далёка, але ў мяне быў свабодны час. Экзамены ўжо былі за мной, я мела яшчэ аформіць пару дробных спраў, а так напраўдзе, дык чакала яго, каб разам ехаць да маіх бацькоў.

Не, не думай, што я застала там яго з іншай дзяўчынай! Не, сядзеў і вучыўся. Але было штосьці іншае, што звярнула маю ўвагу і не дае жыць да сёння. На памаляванай сцяне каля яго ложка было поўна недвухсэнсавых плям эратычнага паходжання. І я чамусьці была ўпэўнена, што гэта яго работа. Проста ведала яго, як ён кахаецца. Такія стрэлы па сценах — гэта яго спецыяльнасць, але ў маім пакоі сцены паклеены змывальнымі шпалерамі.

Убачыўшы, што я прыглядаюся да гэтых плям, хлопец спахмурнеў, пачаў тлумачыцца, што гэта ж не мусіў быць ён, бо раней тут жыў іншы хлопец, а інтэрнаты, вядома ж, як рэдка малююць. Але што з таго, калі сэрца мне падказвала, што ён маніць.

Знерваваная, я выскачыла ў калідор, дзе апрытомнела крыху, і выйшла на вуліцу. Мне было вельмі цяжка. Але ўзяла таксі, спакавала свае рэчы і адна прыехала да бацькоў. Не прасіла ў яго, каб тлумачыўся, пераконваў мяне. Навошта мне было ўсё гэта? Гэта ж і так ясна.

А цяпер вось сяджу ў хаце і думаю, што мо мне проста нешта здалося...

**Вераніка**

Веранічка! Калі табе здалося, дык напэўна нешта было. Ты ж яго ведаеш найлепш. Тым больш, што прабаваў зваліць віну на іншага хлопца. Адпачні адна, а восенню разгланешся, што з таго ўсяго будзе. Дарэчы, сёння ж столькі антыканцэпцыйных сродкаў, а вы гэта робіце старымі метадамі...

**СЭРЦАЙКА**